PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 44 (2007) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 30 КАСТРЫЧНІКА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Лясныя прыгажуні апранаюцца ў міні-спаднічкі.* **Фота А. Вярбіцкага**

*Алег Латышонак*

## ДЗЕТКІ З ПЛЮЦІЧ

Летась на Раждажство да Іванюкоў прыйшла калядаваць толькі Аня. Пасля прыйшла яшчэ раз, з двума хлопчыкамі. Калі Іванюкова пажартавала з яе, што ўжо раз яе абдарыла, Аня сказала: „Я нічога не хачу, толькі спяваць хачу".

Гэтых трое калядоўшчыкаў складае палову агульнага ліку дзяцей у школьным узросце ў Плюцічах. Настаўніца з Храбалоў, дзе вучацца плюціцкія школьнікі, думала, што Плюцічы гэта малая вёска, калі з яе ходзіць у школу толькі шасцёра дзяцей.

Сапраўды, Плюцічы — вёска вялікая, у больш за сто нумароў, толькі дзяцей у іх нараджаць няма каму. Усе маладыя выехалі ў Беласток.

Пад канец трыццатых гадоў у Плюцічах было за 180 гаспадароў, а дзяцей у школьным узросце — сотні. Вучыліся яны ў плюціцкай школе, якой будынак цяпер пустуе.

У 1938 г. на сцяне гэтага будынка хтосьці напісаў крэйдай: „Nie chcemy polskiej szkoły, tylko białoruskiej". Надпіс быў па-польску, бо ж па-беларуску пісаць тады не вучылі.

Кіраўніком школы ў той час быў Вайтовіч, паляк з Віленшчыны (усе настаўнікі былі прыезджыя палякі). Былыя вучні ўспамінаюць яго як сытага, тоўстага мужчыну і наогул добрага чалавека. Кіраўнік хутка знайшоў віноўніка, вучня чацвёртага класа, дванаццацігадовага Мікалая Паплаўскага (тады вучыліся інакш, у самым чацвёртым класе навука працягвалася тры гады). Паколькі справа была палітычная, кіраўнік, хочаш не хочаш, паведаміў паліцыю.

Паліцыя ўстанавіла, што Паплаўскага намовіў яго школьны сябра Іван Парфянюк. Той тлумачыўся, што пра падобныя надпісы, толькі на картках, якія былі вывешаны на школьным будынку ў Райску, сказаў яму Уладзімір Іванюк. Той сказаў, што пра надпісы ў Райску даведаўся ад Міхала Андраюка. Іванюку паліцыя не паверыла. Якраз Андраюк выдаў Паплаўскага кіраўніку, дык паліцыя палічыла, што Іванюк хоча адпомсціць Андраюку за здраду. Так ці інакш, круг замкнуўся.

Паліцыю наогул не цікавілі школьнікі, толькі той, хто паддаў ім антыдзяржаўную думку. Бацькі вазілі віноўнікаў на допыты на пастарунак у Вышкі, што ў 18 км ад Плюціч. Паліцыя прыязджала таксама ў Плюцічы, да Паплаўскіх. Пяцігадовую Марысю, сястру Мікалая, пыталі, ці хто брата не падмовіў, ці не бацька гэта, і цукеркі давалі.

Дарма яны стараліся, бо бацька тут быў ні пры чым. Нікіфар Паплаўскі быў спакойным селянінам, нідзе не належаў, усё жыццё круціўся, каб здаць з сябе бяду. КПЗБ усё-такі была ў хаце Паплаўскіх, але за сцяною, дзе жыў Васіль, дваюрадны брат Нікіфара. Ён гэтым займаўся, значыцца, антыдзяржаўнай дзейнасцю, у турме сядзеў, людзі ў яго збіраліся. Гэта ад дзядзькі Васіля хутчэй за ўсё пачуў Мікалай пра тое, што напісаў.

Паколькі найцямней пад ліхтаром, паліцыя Васіля Паплаўскага не кранала. Западозрыла Надзею Астроўскую, сваячку Нікіфара, якой муж сядзеў у Картуз-Бярозе, але ўсё-такі не змагла даказаць у следстве таго, чаго не было. Пракуратура спыніла справу.

Праваднік следчай службы са следчага Аддзела ў Бельску-Падляшскім, Часлаў Манкевіч, падвёў вынікі гэтай справы наступным чынам: „Wogóle ludność wsi Plutycze jest skomunizowana i wrogo usposobiona do Państwa Polskiego".

Наогул пан праваднік не памыляўся. Плюцічы кішэлі ад камуністаў. Людзі сядзелі дома, душыліся на сваіх палетках без ніякага заробку. Капэзэбоўцы рабілі маёўкі, на якіх да партыі людзей сабе набіралі, як тая „Салідарнасць" у касцёлах. Некуды было людзям падацца, толькі два чалавекі скончылі сярэднюю школу.

Мікалай Паплаўскі, як сведчаць школьныя дакументы, вучнем быў слабым. Яго школьныя сябры таксама помняць, што вучыцца ён не любіў, затое фокуснік быў страшэнны і ўсё гэта, надпіс значыць, дзеля жарту зрабіў.

Усё-такі ягоная сястра ўспамінае, як страшэнна сварыўся бацька, нашто ж такое пісаць, а Мікалай усё ўпіраўся: „Нам не трэба польскай школы, толькі беларуская". Дык невядома нарэшце, фокусы гэта былі, ці змаганне за беларускую школу, як напісаў Славамір Іванюк у „Часопісе".

Падчас следства ўсплыла яшчэ адна справа. Вучань III класа Іван Ваўранюк быццам бы ўгаворваў школьнікаў не купляць падручнікаў па рэлігіі на польскай мове. Яго самога падгаварыў

*Працяг на стар. 5*

**Мяне то нічога асабліва страшнага не спаткала, але сяброўку, якая працуе ў Гайнаўцы, адзін тып з сякерай гнаў!**

*Мікола Ваўранюк*

## РОЗНЫЯ ЛЮДЗІ БЫВАЮЦЬ...

**Размова з ІРЭНАЙ ШЫКУЛАЙ — прафесійным куратарам па справах дарослых у Раённым судзе ў Бельску-Падляшскім.**

— *Ірэна, якія твае абавязкі?*

— Я займаюся ўмоўна асуджанымі або датэрмінова звольненымі за добрыя паводзіны. У маёй кампетэнцыі таксама моладзь — у гадах 17—21. Судовы куратар праводзіць кантроль, ці гэтыя людзі прытрымліваюцца варункаў, якія паставіў ім суд. Гэта, як правіла: забарона мяняць месца прабывання без паведамлення адпаведных уладаў, абавязак рэгулярнага наведвання суда, і забарона ўваходзіць у канфлікт з законамі. Калісьці трэба было рэгулярна заяўляцца на паліцыі, а цяпер — у куратара. Апрача таго суд можа абляжыць дадатковымі абавязкамі, як: абсалютны абавязак прабываць у месцы прапіскі, парваць кантакт з крымінальным асяроддзем, паўстрымліваецца ад празмернага спажывання алкаголю ці абавязкова даваць грошы на ўтрыманне сям'і.

Мы наведваем такога чалавека раздва разы ў месяц, размаўляем з сям'ёй, часамі з суседзямі, з камісарыятамі паліцыі. Супрацоўнічаем з рознымі ўстановамі, з раённым бюро працы, з сацыяльнай апекай, антыалкагольнай дапамогай. Дапамагаем знайсці працу, хаця ў прадпрыемствах мы толькі можам прасіць, а не патрабаваць, чаго часта не хочуць разумець тыя, хто пад нашай апекай. Калі чалавек добра сябе паводзіць, мы пішам прашэннне аб звальненні ад дазору. У адваротным выпадку можам звярнуцца ў суд, каб адхіліў умоўна-датэрміновае звальненне, або абклаў дадатковымі абавязкамі.

**Прафесійным судовым куратарам можа стаць: грамадзянін Польшчы, не суджаны, з вышэйшай адукацыяй — педагагічнай, псіхалагічнай або сацыялагічнай. Такая асоба павінна скончыць 24 гады, прайсці гадавую куратарскую стажыроўку і скласці куратарскі экзамен. Прафесійных куратараў назначае і звальняе старшыня ваяводскага суда ў кансультацыі з ваяводскім куратарам. Куратар пасля трох гадоў можа стаць старшым куратарам. Наступная ступень — куратар-спецыяліст — не раней, чымсьці пасля чарговых 5 гадоў беззаганнай працы.**

*Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Ziemie Kresowe stały się częścią Rzeczypospolitej na mocy Unii Lubelskiej 1569 r. W ciągu kilkuset lat zrosły się na stałe z Polską, stały się Polską w najgłębszym tego słowa znaczeniu. Na ogromnym obszarze rozkwitła kultura polska, której pozostałości możemy podziwiać w postaci pałaców, kościołów, klasztorów. Pozostały po nas kamienne miasta ze wspaniałymi europejskimi metropoliami Lwowem i Wilnem, pozostały drogi i kanały — relikty ginącej cywilizacji. Odcięcie Polski od Kresów było druzgocącym ciosem dla naszej tożsamości, Polska bez prowincji wschodnich stała się bezbarwna i wyjałowiona. Dopiero teraz możemy z całą pewnością twierdzić, że jedynie Polska może być tam czynnikiem postępu, prawa i cywilizacji. Wystarczy spojrzeć z jaką nieudolnością próbują budować swoją państwowość na obszarze dawnych Kresów postkomunistyczne republiki. Kresy powinny pozostać tak jak przez wieki ogniskiem kultury polskiej.*

*(Myśl Polska, nr 29; pismo ZChN)*

Сапраўды, як бы „wyjałowiona” і на дадатак запляснела гэтая Myśl Polska.

* * *

*Зараз Польшча адплывае на захад, Беларусь жа на ўсход. Па цывілізаваным рахунку беластачане не пачнуць кідацца з аднае крыгі на другую і мы аддаляемся. Роспачна ржэ Пагоня паміж двума арламі,* — піша Сакрат Яновіч.

*(Літаратура і мастацтва, н-р 37)*

На жаль, Пагоня мае прычыны да роспачы. Нас неўзабаве раздзеліць не толькі мяжа цывілізацыі, але лінія фронту паміж Паўночнаатлантычным пактам і Садружнасцю Незалежных Дзяржаў. Не надта цікавы можа быць лёс меншасцяў па абодвух баках гэтай мяжы.

* * *

*Białoruś w oczach większości Polaków wygląda zdecydowanie niekorzystnie. Przeważnie kojarzy im się z handlarzami, którzy oferują spirytus „Royal” albo systemem komunistycznym, w ich mniemaniu wciąż tam obowiązującym. A jak Białoruś postrzegana jest przez nas — polskich Białorusinów? Niestety podobnie.*

*(Czasopis, nr 16)*

Хлопцы, ніхто цяпер не гандлюе „Раялам”. Спірт „made in Poland” выкасіў усіх канкурэнтаў на беларускім рынку. Па гэтым толькі відаць, што капіталізм і свабодная канкурэнцыя, а не нейкі там камунізм, пануе ў Беларусі.

* * *

*Lata 1815—1914, a zwłaszcza 1860—1911 na pewno były znacznie lepsze dla Polski niż np. lata 1660—1760 lub 1918—1994,* — піша Януш Корвін-Мікэ, лідэр Уніі рэальнай палітыкі.

*(Najwyższy Czas, nr 39)*

* * *

*Przyjrzyjcie się sennym miasteczkom, gdzie szwendają się bez celu bezrobotni. Uważajcie na tych wiejskich drogach, gdzie rowery jeżdżą zygzakiem już od świtu, gdzie nadal pędzi się bimber, a wina mają etykietę „Wino”. Polski model picia samobójczego, heroicznego — wciąż niestety istnieje.*

*(Polityka, nr 39)*

* * *

*БГКТ хацела б у музеі ў Гайнаўцы стварыць беларускі цэнтр культуры, мець бібліятэку, выдавецтва, архіў, праводзіць канферэнцыі,* — піша Уладзімір Юзвюк.

*(Голас Радзімы, н-р 34)*

Жадаем поспехаў!

* * *

*Bycie Białorusinem w Polsce wymaga mocnego charakteru.*

*(Gazeta Współczesna, nr 194)*

„To nie jest sprawa dla mięczaków”, — пісалі калісь хлопцы ў „Сустрэчах”. Дзе вы цяпер, сябры?

* * *

*Premier Pawlak ma już tyle spraw do załatwienia, że nie wie od której zacząć i dlatego nie zaczyna od żadnej.*

*(Najwyższy Czas, nr 40)*

* * *

*W sytuacji, w której społeczeństwo nie będzie się myło (drożeje ciepła woda), nie będzie ze sobą rozmawiało (drożeją telefony) dziwi decyzja o podwyżkach cen wódki. Jest to przecież produkt, który sprzyja preferowanym zachowaniom: po wódce wszak nie można jeździć samochodem, mądrego też nic się nie da powiedzieć, a i kto by tam jeszcze pamiętał o myciu.*

*Wódka podrożała bez powodu.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 229)*

* * *

*Пагаворым пра нацыянальны характар беларусаў, не звяртаючы ўвагі на аксіёмы пра „ціхі, лагодны, рахманы, памяркоўны народ”, здольны без душэўных пакут падпарадкоўвацца іншым народам, пераняць чужую культуру. І, у рэшце рэшт, набыць устойлівы комплекс „малодшага брата” нездольнага на самастойны крок без „старэйшага брата”.*

*Апошнім часам міф пра двух братоў — старэйшага і малодшага — актыўна рэанімуе прэзідэнт Лукашэнка. Першая асоба дзяржавы ўбівае ў галовы людзей пачуццё непаўнацэннасці. У тым жа накірунку пачынае цісцуць новастораны прэзідэнцкі прапагандысцкі апарат.*

*(Народная газета, 27.09.1994)*

Сатырыкі ў Беларусі пакуль што не памруць з голаду.

* * *

*Хопіць енчыць, што мы бедныя, галодныя, нешчаслівыя, шматпакутныя... Не трэба з гэтага рабіць свой крыж, хаця ў гісторыі было многа несправядлівага,* — сказаў былы міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка.

*(Звязда, 28.09.94)*

І слушна, спадар міністр, бо ніхто ўжо гэтага не хоча слухаць.

* * *

*Kot to pierwszoklasista. Uczeń, który zaczyna szkołę średnią, podobnie, jak początkujący żołnierz w wojsku musi przejść okres próbny, wykazać się przed starszymi kolegami, że zasługuje na miano ucznia danej szkoły. Zabawa z roku na rok staje się coraz bardziej brutalna. Jak się kota wprowadza w życie szkoły? Na przykład powinien nauczyć się higieny — myć się w każdym zlewie... Chłopakowi z I LO w Białymstoku kazano pić wodę z sedesu, dziewczynie w internacie podano kanapkę ze zdechłą myszą, zapałką zmuszano mierzyć głębokość muszli klozetowej. Kot musi być także posłuszny, oddać swoją kanapkę, kiedy go starszy kolega poprosi, przynieść papierosy, ustąpić miejsca.*

*(Kurier Poranny, nr 209)*

Мяў-мяў!

* * *

*Taka jedna, lat 20 — chciałabym w przyszłym roku 3-4-5 sierpnia postawić ci irokeza. Mamy 9 miesiecy na ćwiczenia teoretyczne i praktyczne,* — з rubryki „Poznajmy się”.

*(Kurier Podlaski, nr 198)*

# З мінулага тыдня

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава** і прадстаўнікі Унійнай пратэстанцкай царквы Нямеччыны, з якою нашая Царква супрацоўнічае, нанеслі куртуазны візіт новым адміністрацыйным уладам ваяводства. Гасцей прынялі ваявода **Анджэй Гаеўскі** і віцэ-ваявода **Гжэгаж Рыкоўскі**.

**Віцэ-міністр аховы асяроддзя Бернард Блашчык** паінфармаваў парламентарыяў, што распрацоўваецца стратэгія добраўпарадкавання **Белавежскай пушчы**, якая прадугледжвае змену статуса гэтага ляснога комплексу, устаноўленага ў 1975 г., так, каб пабольшыць паспяховасць яе аховы. Да канца г.г. Інстытут даследавання лясніцтва складзе праект прызнання Белавежскай пушчы статуса сусветнага біясфернага рэзервата. Прадугледжвае ён стварэнне ландшафтнага парку, у састаў якога будзе ўключана ўся пушчанская тэрыторыя і навакольныя абшары. Вядуцца таксама кансультацыі праекта павелічэння Белавежскага нацыянальнага парку.

З году ў год расце лік удзельнікаў **прадметных конкурсаў у пачатковых школах**. Два гады таму да ваяводскіх спаборніцтваў дайшло 214 вучняў, а 156 сталі лаўрэатамі, а ў мінулым годзе — адпаведна: 276 і 188. Пераможцы прадметных конкурсаў атрымоўваюць права паступаць у сярэднія школы без экзаменаў. У гэтым годзе ўпершыню аб'яўлены **конкурс па беларускай мове**.

**Уладзімір Наумуюк з Канюкоў** стаў адным з лаўрэатаў конкурсу „Сакральная разьба ў народным мастацтве”, якога галоўным арганізатарам выступіў Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку. Ягоная скульптура „Майсей” атрымала адно з двух другіх месцаў. На конкурс 28 народных мастакоў падрыхтавалі 102 работы.

**У Сэйнах** пачалася пабудова **Цэнтра літоўскай культуры**. Аб'ект узводзіцца на літоўскія грошы і матэрыялы і літоўскай будаўнічай фірмай з Мар'ямполя. Інвестарам выступае мясцовае Літоўскае таварыства св. Казіміра. У будынку прадугледжаны глядзельная зала, памяшканні для мясцовых літоўскіх арганізацый і, мабыць, літоўскага консульства.

**У выніку пабояў** у пачатку верасня памёр у шпіталі ў Тарнопалі на Украіне 39-гадовы жыхар Белавежы **Мікалай Шпаковіч**. Пасля выхаду з рэстарана ў Пачаеве ўзяла яго міліцыя. Перад смерцю ў шпіталі М. Шпаковіч расказаў сваёй жонцы, што міліцыянты патрабавалі долараў, якіх у яго не было, а потым пабілі. Белавежцу зрабілі ў шпіталі тры аперацыі, але выратаваць яго не ўдалося. На целе ахвяры лекары выявілі сляды пабояў. Смерць наступіла ў выніку пашкоджання мачавога пузыра. Пракуратура ў Крамянцы вядзе расследаванне, а ў пабоях абвінавачваюцца тры міліцыянты. Міністэрства замежных спраў Польшчы заявіла, што прыме адпаведныя меры, каб высветліць справу смерці польскага грамадзяніна.

**Узрастае колькасць злачынстваў** учыненых чужаземцамі. Раённыя пракуратуры, якія падлягаюць Ваяводскай пракуратуры ў Беластоку (а яна вядзе дзейнасць на тэрыторыі Беластоцкага і Ломжынскага ваяводстваў), узбудзілі 320 спраў супраць іншаземцаў, а да канца гэтага года мяркуецца, што такіх спраў будзе звыш 400. Да 30 верасня г.г. пракуроры ў гэтых двух ваяводствах арыштавалі 162 грамадзян іншых краін. Сярод арыштаваных найбольш было **грамадзян Беларусі — 56**, Расіі — 24 і Нямеччыны — 19. Абвінавачаныя найчасцей займаліся вымаганнем, разбоямі, крадзяжом аўтамашын і ўзломамі.

**У Бельску-Падляшскім** забілі 70-гадовую матушку-ўдаву, якая жыла адзінока. Непарадак у кватэры сведчыць, што злачынцы прыйшлі абрабаваць самотную жанчыну. Паліцыя ў злачынстве падазрае двух маладых грамадзян былога СССР.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- Дзеці з Чарнобыльскай зоны ў Старыне.
- Беларуская эміграцыя ў Канадзе.
- Канферэнцыя пра беларускае школьніцтва на Беласточчыне.
- Як акуратна завязаць гальштук — раіць Ян Міхалюк.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Прэм'ер-міністр у Вашынгтоне

У Белым доме адбылася сустрэча прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра з віцэ-прэзідэнтам ЗША Альбертам Горам. Абодва бакі падрабязна абмеркавалі стан і перспектывы далейшага развіцця і актывізацыі міждзяржаўных сувязей Беларусі і ЗША. А. Гор выказаўся за развіццё цесных і паспяховых кантактаў з Беларуссю, новае кіраўніцтва якой намагаецца паскорыць правядзенне рэформ. На сустрэчы з прадстаўнікамі амерыканскіх дзелавых колаў шэф урада расказаў падрабязна пра меры, якія прымаюцца для стымулявання замежных інвестыцый у эканоміку Беларусі.

### Віцэ-прэм'ер у Польшчы

З паездкі ў Польшчу вярнулася дэлегацыя на чале з віцэ-прэм'ерам Віктарам Ганчаром. Дэлегацыя прыняла ўдзел у эканамічным форуме „Магчымасці супрацоўніцтва Польшчы, Беларусі, Расеі і Украіны на шляху да інтэграцыі з Заходняй Еўропай”, якая праходзіла ў Крыніцы-Гурскай. Віктар Ганчар выступіў на пленарным пасяджэнні, дзе абмяркоўваліся асноўныя пытанні развіцця эканамічнага супрацоўніцтва чатырох дзяржаў. У ходзе работы форуму віцэ-прэм'ер меў гутарку з маршалкам Сейма Польшчы Юзэфам Алексым, а таксама з кіраўнікамі ўрада, міністрамі, кіраўнікамі буйнейшых гаспадарчых і банкаўскіх арганізацый. Бакі абмеркавалі шэраг праблем у галіне эканомікі рыначных адносін, намецілі шляхі ўмацавання узаемавыгадных сувязей.

### МВФ вывучае Беларусь

У лістападзе Міжнародны валютны фонд правядзе ў Вашынгтоне спецыяльную сустрэчу па Беларусі. На працягу 3-4 дзён гэтая ўплывовая арганізацыя будзе вывучаць магчымасці супрацоўніцтва з рэспублікай.

### Транспартны калідор

У Варшаве адбылося пасяджэнне групы па стварэнню транспартнага калідора Варшава — Менск — Масква, у якім прымалі ўдзел эксперты з Польшчы, Беларусі, Расеі і Еўрапейскай Супольнасці. Па выніках сустрэчы быў парафіраваны праект мемарандума аб узаемаразуменні па развіццю транспартнага калідора.

### Свята ў Вільні

Зараз у Літве праводзяцца Дні беларусаў Літвы. З гэтай нагоды ў галерэі Саюза народных мастакоў у Вільні адкрыта выстава гродзенскіх і мясцовых беларускіх майстроў. У праграме Дзён была і навуковая канферэнцыя на тэму „Літоўска-беларускія сувязі на пачатку стагоддзя”. А ўлетку наступнага года вырашана правесці канферэнцыю па пытаннях сучасных літоўска-беларускіх адносін.

### Дэлімітацыя граніцы

У Гродне адбыўся чарговы раунд перагавораў па дэлімітацыі і дэмаркацыі літоўска-беларускай граніцы. Цэнтральным у ходзе перагавораў было пытанне аб станцыі Гадуцішкі. У адпаведнасці з дагаворанасцю да Беларусі адышлі асноўны чыгуначны пуць і тры дапаможныя. Літва атрымала будынак чыгуначнага вакзала і адзін, які прымыкае да яго, дапаможны пуць. У ходзе перагавораў бакі канкрэтызавалі таксама дагаворанасці па іншых прыгранічных участках, размешчаных на тэрыторыі Гродзенскай вобласці.

### Афіцэры аддаюць перавагу Расеі

Адток афіцэраў з узброеных сіл Беларусі за апошнія паўтары года набыў такія маштабы, што пагражае ён абараназдольнасці краіны. Ваеннаслужачыя ў масавым парадку пішуць рапарты з просьбай перавесці іх на службу ў Расею. З пачатку 1993 г. беларускія ваенна-паветраныя сілы такім чынам пазбавіліся ўжо 700 лётчыкаў. Прычыны гэтай сумнай у маладой беларускай арміі з'явы — неспрыяльная эканамічная сітуацыя ў краіне. Заробак расейскага афіцэра ў 8-10 разоў вышэйшы, чым яго беларускага калегі.

### Студэнцкі пратэст

Здаецца, хутка студэнтам прыйдзецца ісці на паперць ці на вялікую дарогу. Дэфіцыт сшыткаў змяніўся багаццем прадукцыі на кірмашы, але кошт такі, што хоць страчвай прытомнасць. Адзін агульны сшытак каштуе 3 640 рублёў. Такім чынам стыпендыі хопіць толькі на тры сшыткі. Ну, а есці за што?

Такая сітуацыя паўплывала на тое, што па ініцыятыве Задзіночання беларускіх студэнтаў у Менску адбыўся дэманстрацыйны марш пад дэвізам „Дзякуй прэзідэнту за хлеб і малако!”. Сабраныя каля Гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта студэнты прайшлі па праспекце Скарыны на пляц Незалежнасці — да галоўнага корпуса БДУ. Перад вокнамі Адміністрацыі Прэзідэнта і Кабінета Міністраў адбылося масавае спажыванне малака і хлеба, адзіных прадуктаў, якія можа купіць за студэнцкую стыпендыю (яна зараз складае 85% ад мінімальнай — 10 000 рублёў — зарплаты) і прэзідэнцкую кампенсацыю.

# Ці ў XI стагоддзі былі ўжо беларусы?

Разам са знаходкай „Дублінскага рукапісу" пацвердзілася геніяльная здагадка У. Ламанскага, што назва Белая Русь „больш старажытная, чым эпоха Альгерда і нават Гедыміна, што яна існавала ў канцы і нават у сярэдзіне XIII ст." „Апісанне зямель" з „Дублінскага рукапісу", у якім упершыню ўпамінаецца „Alba Russia", паходзіць якраз недзе з сярэдзіны XIII ст.[1]

Усё-такі ў „Апісанні зямель" Белая Русь падаецца як краіна, якой назвы і месцапалажэння не трэба праясняць, таму можна з даволі вялікай упэўненасцю сцвердзіць, што існавала яна раней, чым у XIII ст. Як ужо раней заўважыў Сымон Брага, Белая Русь выступае першапачаткова толькі ў заходніх крыніцах. У лік гэтых жа крыніц упісваецца і „Апісанне зямель". Улічыўшы гэта, у пошуках вытокаў назваў „Белая Русь", „беларусы" трэба накіроўвацца на заходнія крыніцы.

На маю думку, такой крыніцай можа быць хроніка Адама Брэменскага, напісаная ў XI ст. На магчымасць, што ў працы старажытнага нямецкага гісторыка могуць згадвацца жыхары сучаснай Беларусі, звярнуў увагу П. Урбан.[2] Яго ўвагу прыцягнуў фрагмент, у якім Адам Брэменскі, гаворачы пра народы, якія жылі на ўсход ад Балтыйскага мора, там, дзе была Русь, згадвае і пра такі народ: „Ibi sunt etiam qui dicuntur Alani vel Albani, qui lingua eorum Wizzi dicuntur".

П. Урбан, ідучы следам за каментарыем выдаўца хронікі, прымае, што „Wizzi" гэта „Wilzi", г.зн. палабскія слявяне, якія, паводле яго, маглі перасяліцца на ўсход, і якіх атаясамліваем з літвой. Усё-такі ў арыгінале ёсць „Wizzi", а не „Wilzi". Каментуючы сказ Адама Брэменскага, Урбан забываецца, што ў храніста „Wizzi" стаяць на трэцім месцы, „Albani" на другім, а згаданы народ ведае ён перш за ўсё пад назвай „Alani". Аланаў, вядома, ні ў Беларусі, ні ў Літве ніколі не было. Урбан не скарыстаў таксама з магчымасці інтэрпрэтацыі акрэслення „crudelissimi ambrones", якое перакладае як „усеедны, люты народ".

На маю думку, усе тры назвы і акрэсленне трэба абавязкова разглядаць нераздзельна.

Пачнем з канца: „crudelissimi ambrones" гэта проста „вельмі грозныя людзі". Быў на Русі такі народ, які называлі грозным. Гэта „грозныя палачане" са „Слова аб паходзе Ігара". Палачан у скандынаўскіх сагах называецца „Palltesjuborg". А як называліся ў германскіх мовах палачане? Магчыма, „Paltani". Такім чынам „Alani" гэта скажонае „Paltani".

Адам Брэменскі мог адчуваць, што недакладна перадае гукі чужой мовы, дык дадаў і другую магчымую назву, вядомае яму з літаратуры „Albani". Падобныя асацыяцыі вельмі часта сустракаюцца ў сярэднявечных гісторыкаў. Усё-такі магчымае і другое: Адам Брэменскі пераклаў на лацінь нейкую германскую назву, якую разумеў як „белыя". Мог, напрыклад, пачуць нешта накшталт „Weizzen Reuzzen" Пятра Зухэнвірта. Такім чынам пад назвай „Albani" могуць скрывацца „белыя русы", беларусы.

Нарэшце: „Wizzi". Гэтае слова можна прачытаць як „Віцы", але таксама добра і як „Вічы". Улічыўшы тое, што тры назвы пададзены Адамам Брэменскім нераздзельныя, гэта можа быць толькі абрэвіятура ад слова „Criwizzi", Крывічы.

Такім чынам, поўны сказ можна прачытаць так: „Ibi sunt etiam, qui dicuntur [P]al[t]ani, vel Alb(an)i [Russi], qui lingua eorum [Cri]wizzi dicuntur". У перакладзе на беларускую мову гэта абазначае наступнае: „Ёсць там таксама такія, якія называюцца палачане або беларусы, якія на сваёй мове называюцца крывічамі, вельмі грозныя людзі".

На шырэйшую інтэрпрэтацыю гэтага сказа не дазваляе вельмі сухая крыніца. Магчыма, згодна гіпотэзе А. Рогалева, якраз у Полацкай зямлі была першабытная Русь.[3] Нездарма відаць у першай крыніцы, дзе падаецца дакладна месцазнаходжанне Белай Русі, згадваецца якраз Полацак: „castrum Acbae Russiae, Poloczk dicto". Але толькі ў Полаччыне, а не, як хоча А. Рогалеў, і ў Суздальскай зямлі, бо пра гэта аўтэнтычныя крыніцы не ўспамінаюць. Маскоўскі князь Іван III, выступаючы да рымскіх папаў як „Ioannes dux Albae Russiae" пад канец XV стагоддзя відавочна прабаваў прысабечыць каштоўную назву, пішучы да прадстаўнікоў культуры, у якой па сіле традыцыі гэтая каштоўнасць магла разумецца.[4]

Калі нават маё прачытанне Адама Брэменскага памылковае, застаецца яшчэ адна магчымасць. Назва „Alba Russia" магла ўзнікнуць на захадзе ў выніку асацыяцыі вядомых з ягонай працы албанаў з месцам у Русі, дзе яны паводле яго былі. Такім чынам, гіпатэтычная „Russia Albana" магла пераўтварыцца ў „Russia Alba", „Alba Russia", Белая Русь.

**Алег Латышонак**

---

*1/ Глядзі: А. Латышонак, Калі ўзнікла Беларусь?, „Ніва" н-р 1 (1964) ад 2.01.1994 г.*

*2/ П. Урбан, Да пытання этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў, Менск 1994, с. 80.*

*3/ А. Рогалеў, Адкуль ты, Белая Русь? Геаграфічная праекцыя і гістарычная інтэрпрэтацыя, „Настаўніцкая газета" н-р 57—58, 1993 г., с. 1—3.*

*4/ Глядзі: Г. Сагановіч, Да гісторыі назвы „Белая Русь", Старонкі гісторыі Беларусі, Мінск 1992, с. 64—65.*

# Кім ты естэсь?

У польскім тыднёвіку „Głos znad Niemna" (н-р 33), што выходзіць у Беларусі, была надрукавана сетка гадзін паасобных прадметаў, якія навучаюцца ў тамашніх польскіх пачатковых школах. І так, у першым класе дзеткі вучацца 1 гадзіну беларускай мовы і 7 польскай, у другім — 4 беларускай і 8 польскай, ў трэцім і чацвёртым — у адпаведнасці 4 і 7 гадзін. Апрача гісторыі і геаграфіі ўсе іншыя прадметы вядуцца таксама на польскай мове.

У тым жа самым нумары „Głosu" ў артыкуле азагалоўленым „Kim ty będziesz, Polaku mały?" кіраўнік Аддзела асветы Саюза палякаў у Беларусі Тэрэса Крышэнь піша, што толькі школа можа дапамагчы бацькам выхаваць дзяцей на палякаў і патрыётаў, так, каб яны маглі перадаць пачуццё нацыянальнай годнасці наступным пакаленням.

Палякі ў Беларусі з'яўляюцца найлепшым прыкладам таго, як трэба змагацца за свае нацыянальныя інтарэсы. Калі толькі з'явілася незалежная беларуская дзяржава, а з ёю адпаведныя ўмовы, палякі — з падтрымкай Рэчы Паспалітай — выкарысталі шанц, які стварыла ім гісторыя. За тры гады сарганізавалі каля 360 школ, у якіх іх дзеці навучаюцца роднай мове, пачалі будаваць новыя асветныя і культурныя цэнтры ў Гродне і Ваўкавыску, у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце настаўніцкія кадры рыхтуе факультэт польскай мовы, шматлікія навуковыя ўстановы дапамагаюць сваім суродзічам.

На фоне дасягненняў беларускіх палякаў, беларусы Беласточчыны — нацыя, якая хіліцца да сконy. Можна ўявіць сабе, як зарэагавалі б дырэктары, настаўнікі, бацькі з Міхалова, Нараўкі, Чыжоў, Кляшчэляў ці Сямяціч, калі б хтосьці запрапанаваў ім, што ў першым класе іх дзеткі будуць вывучаць 1 гадзіну польскай мовы, а 7 — беларускай. Баюся, што аўтара такой прапановы ўсе згодна патрабавалі б адправіць у псіхушку. Колькі нашых бацькоў думаюць, каб выхаваць дзіця так, каб яно захацела яшчэ перадаць нацыянальную ідэю сваім нашчадкам?

Найбольшая ахвярнасць нешматлікіх дзеячаў нічога не мяняе, толькі пашырае круг людзей з пачуццём прайгранай місіі і патрачанага часу. Без сваіх школ, без навуковых і культурных устаноў — беларуская меншасць у Польшчы не мае ніякіх шанцаў праіснаваць найбліжэйшыя дзесяцігоддзі. Астануцца толькі адзінкі, але іх лёс будзе лёсам „апошніх з магікан". Фальклор нават на найвышэйшым узроўні яшчэ ніколі і нідзе не стварыў нацыі і не паўстрымаў асіміляцыйныя працэсы.

Чарговыя парламенцкія выбары брутальна паказалі, якая ёсць рэчаіснасць і колькі засталося людзей, якія для беларускасці гатовы прынамсі паставіць крыжык на выбарчым лістку. Нішто не паказвае, што ў будучыні будзе лепш, а наадварот — існуюць усе прадпасылкі, спрыяючыя пашырэнню некарысных беларусам працэсаў. Адозвы і заклікі, як тэты: „Не пакідайце роднай мовы!", накіроўваюцца нашымі дзеячамі да неіснуючага ўжо грамадства. Ці спаткаў хто дзеда, які да ўнукаў звяртаўся б на роднай мове? Калісь такіх можна было пабачыць яшчэ на вёсцы. Сёння ўсе мармычуць і шчабечуць на тэлевізійнай мове. Ні Карынгтонаў, ні іншых Ізаўраў не паказваюць жа на беларускай мове (нават у Беларусі). А дзеткі? Ужо ў першым класе, як малітву, вывучаюць рыфмаваны адказ на пытанне: „Кім ты естэсь?" Але ў малітве гэтай не гучыць фраза: „Бялорусін малы".

**Яўген Мірановіч**

# НІЧОГА НЕ ЗДАРЫЛАСЯ

Так, паводле беластоцкай пракуратуры, быў акрэслены інцыдэнт, які меў месца 10 сакавіка г.г. на калідоры будынка пры вул. Сураскай 1. Нагадаем, што выходзячы з рэдакцыі, журналіст „Нівы" ненаўмысна наступіў на транспарант салідарнікаў, які ляжаў на калідоры і займаў амаль цэлую яго плошчу. Адзін з актывістаў, які маляваў на транспаранце нейкі лозунг, схапіў слоік з фарбай і выліў яе на плечы нашага супрацоўніка. Фарба апырскала таксама той жа транспарант і падлогу. У ніякі рацыянальны спосаб немагчыма растлумачыць тое, што дзеялася тады на калідоры, дзе знаходзіцца рэдакцыя „Нівы" і сядзіба „Салідарнасці". Праз некалькі хвілін па факсе і тэлефоне беластоцкія салідарнікі паведамілі прэм'ер-міністра Паўляка, свайго лідэра Кшаклеўскага, беластоцкія ўлады, паліцыю, службу дзяржаўнай бяспекі, радыё і тэлебачанне, што арда п'яных камуністаў — супрацоўнікаў беларускай газеты — напала на іх сядзібу, знішчыла транспаранты і памяшканне. Хаця быў ужо позні вечар, праз пяць хвілін калідор запоўніўся паліцыянтамі ва уніформах і ў штацкім, ваяводскімі ўраднікамі і журналістамі беластоцкай радыёстанцыі Польскага радыё. Першы закід пастаўлены ў адрас „Нівы", калі з'явіліся першыя запрошаныя „госці", гучаў: „Oni nawet na korytarzu rozmawiają po białorusku!" Амаль цэлую ноч паліцыянты прабавалі зарыентавацца, навошта іх туды паклікалі і чаму пару афіцэраў мае займацца пушкай разлітай фарбы, калі няма каму займацца гвалтамі, разбоямі, забойствамі.

Такіх праблемаў не мелі журналісты беластоцкага радыё. Ужо ў той самы дзень, можа гадзіну пасля інцыдэнта, пайшла ў эфір інфармацыя пра напад журналістаў „Нівы" на мірных дзеячаў „Салідарнасці". 11 сакавіка ад 6 гадзіны раніцы радыё штогадзінна пускала рэгулярную інфармацыю з Сураскай у стылі, напамінаючым паведамленні з першай лініі фронту. Гучалі перш за ўсё выказванні лідэра беластоцкіх салідарнікаў Мазалеўскага і ягоных калегаў. Актывісты інфармавалі грамадства Беласточчыны, і не толькі, што пасля 19 верасня мінулага года, калі „левыя" выйгралі парламенцкія выбары, беларускія камуністы з рэдакцыі „Нівы" паводзяць сябе вельмі агрэсіўна і паставілі сабе за мэту ліквідаваць прафсаюз „Салідарнасць", аб чым быццам бы адкрыта яны заяўлялі. Рэалізуючы свае злачынныя ідэі, 10 сакавіка напалі яны на дзеячаў і штаб-кватэру беластоцкага рэгіёна „Салідарнасці", знішчылі транспаранты і памяшканне.

На мітынгу, скліканым 11 сакавіка ў сярэдзіне дня, побач гэтага самага будынка пры вул. Сураскай 1, Мазалеўскі паўтарыў усе „сенсацыі" пра здрадніцкі загавор беларускіх камуністаў з рэдакцыі „Нівы". Пад уплывам гэтай дэмагогіі фабрычныя актывісты пачалі пагражаць штурмам на рэдакцыю (Gazeta w Białymstoku, 12.03.1994).

Паліцыянты, якія вялі расследаванне, не маглі зразумець, у чым заключалася злачынная акцыя беларусаў. Паводле слоў салідарнікаў, журналіст „Нівы", ідучы калідорам, стукнуў нагою ў слоік з фарбай, якая разлілася па калідоры і транспаранце. Не было адказу, як тая фарба апынулася ў яго на плячах і галаве. Прайшло паўгода і знайшліся адказы на гэтае пытанне. Дае іх Раённая пракуратура ў Беластоку. Спасылаючыся на словы актывістаў „Салідарнасці", якія — як аказваецца — былі толькі сведкамі здарэння, нейкі асэсар піша, што ніхто і нікога не абліваў фарбай. „Zachlapanie ubrań farbą nastąpiło w wyniku potrącenia pojemnika z farbą przez pracownika „Niwy". Ponadto po rozlaniu farby chodził on po holu ciągnąc za sobą zdjętą z siebie kurtkę. Żadne przestępstwo nie zaistniało..." (!).

Выглядае на тое, што нічога не здарылася. Ішоў нейкі беларус, улез у польскую фарбу. І гэта ўсё. Але чаму тады паставілі ўначы на ногі ўсе спецслужбы, паліцыю і дзяржаўную адміністрацыю? Чаму выклікалі антыбеларускую істэрыку?

Адказаў на гэтыя пытанні пакуль што няма.

**М.Я.**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# Бітвы ў Белавежскай пушчы

Войнаў і бітваў у Белавежскай пушчы было многа, пачынаючы ад крывавых змаганняў з ятвягамі і барацьбы паміж рускімі, літоўцамі і мазавецкімі князтвамі. Усіх іх не пералічыць. Тут успомнім толькі бітвы з навейшай гісторыі. У меньшай ці большай ступені краналі яны ўсіх жыхароў пушчы.

У 1812 годзе ў час шэсця Напалеона на Маскву ў Белавежскай пушчы мелі месца доўгія і крывавыя ваенныя дзеянні, якія трывалі чатыры з паловаю месяцы. Загінула тады многа людзей і... белавежскіх зуброў. Частка зуброў уцякла ў Свіслацкую пушчу, стаючыся ўласнасцю яе ўладальніка, графа Тышкевіча.

У 1831 годзе падчас Лістападаўскага паўстання пушчанская страж пад кіраўніцтвам форстмайстра дэ Ранко, па нацыянальнасці швейцарца, а таксама пушчанскія сяляне, асочнікі і лоўчыя перайшлі на бок паўстання. На падмогу белавежскім паўстанцам прыбыў уласнік Свіслацкай пушчы, былы сенатар і генерал Тадэуш Тышкевіч. У пушчы адбылося некалькі бітваў, царскае войска аднак знянацку акружыла паўстанчы штаб ва ўрочышчы Падцаркоўе і разбіла яго.

Падчас Студзеньскага паўстання ў 1863 годзе ў Белавежскай пушчы знаходзіліся параўнальна вялікія сілы паўстанцаў. Лета тады было гарачае і сухое, што дапамагло паўстанцам хавацца ў балоцістых пушчанскіх зарасніках. Царскае рэгулярнае войска пасля нейкага часу знішчыла аднак сілы паўстанцаў.

Падчас II сусветнай вайны ў Белавежскай пушчы дзейнічалі савецкія партызаны, якім мясцовыя сяляне неслі актыўную падтрымку.

(яц)

# РОЗНЫЯ ЛЮДЗІ БЫВАЮЦЬ...

*Працяг са стар. 1*

*— Чаму Ты выбрала гэтую працу?*

— Іншай не было. Я закончыла апякунска-выхаваўчую педагогіку ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Ольштыне, так што мая адукацыя адпаведная гэтай прафесіі...

Ці зрабіла я добра? Я працую з ліпеня мінулага года, ужо больш чым год. Перайшла стажыроўку, думаю, што неяк уцягнулася ў гэту працу. Хаця, для мяне, замала момантаў, калі чалавек адчуваў бы самазадавальненне. Думаю, што калі б я працавала з моладдзю, больш было б станоўчых уражанняў.

Бельскія куратары абымаюць сваёй дзейнасцю даволі вялікую тэрыторыю — былыя Бельскі, Сямяціцкі і Гайнаўскі паветы. А да таго яшчэ вельмі многа працы з паперамі.

*— Колькі маеш асоб пад сваёй апекай?*

— Гэта мянясцца, але дзесьці больш-менш 35 цяпер. А да таго яшчэ даходзіць столькі ж пад грамадскімі куратарамі, падпарадкаванымі мне. Часта такі грамадскі куратар лепш выконвае абавязкі за прафесійнага. Жыве ён бліжэй свайго падапечнага, лепш ведае яго праблемы. Раней наогул грамадскім куратарам выдзялялі больш важную ролю, а цяпер — прафесійным. Зрэшты, рыхтуецца рэформа нашай працы, ёсць прапанова, каб не было падзелу на куратараў для дарослых і сямейных, але дзяліліся яны паводле спецыялізацыі, каб займаліся больш-менш падобнымі справамі комплексна. Тады чалавек адчуваў бы сябе больш упэўнена. А так часта, асабліва нам, маладзейшым, не хапае практычнага дасведчання ў абыходжанні з людзьмі. А бываюць розныя сітуацыі.

*— Якія, напрыклад?*

— Ну, уваходзіш у хату, а там п'янка, бруд, смурод, нейкія напаўраздзетыя тыпы прапануюць напіцца або плачуць над сабой, жаляцца, або пачынаюць абзываць цябе ад найгоршых. І як у такой сітуацыі паводзіць сябе. Я нервовая і вельмі цяжка сябе стрымліваю, але мусова. Рукі мне трасуцца, але стараюся жартаваць, захаваць спакой. Пасля двух такіх размоў, бывае, адчуваю сябе як выплюнутая, нічога ўжо не хочацца рабіць, адно галава трашчыць ад болю.

*— Бывае так, што баішся?*

— Мяне за гэты год нічога страшнага не спаткала, дык неяк прывыкла і не адчуваю страху. Стараюся проста пра гэта не думаць, калі іду на размову, хаця ніколі не ведаю, што мяне чакае за дзвярыма. Але сяброўку з Гайнаўкі — там такая маладая дзяўчына працуе — то адзін тып з сякерай гнаў. Мяне то, да гэтай пары, або стараюцца мужчыны падчапіць, або ўцякаюць, калі пабачаць, што іду.

*— Ці не думаеш, што падчас такога візіту спатрэбіўся б табе пісталет?*

— Абсалютна не. Эфект нашай працы залежыць у вялікай ступені ад таго, ці выклічам да сябе давер. А пра які давер можна гаварыць, калі я ўваходжу ў хату з рэвальверам. Я не магу кліента стаўляць у дзвярах на зважай. Я мушу глядзець на яго як на чалавека, хаця часамі гэта цяжка даецца, калі, напрыклад, ведаеш, што ён вычвараў са сваімі сямейнікамі. Але ж бываюць людзі, якія ў канфлікт з законамі ўвайшлі больш па сацыяльных прычынах, чымсці па сваёй віне. Я, напрыклад, пакуль не пачала тут працаваць, нават не думала, колькі асоб не вучылася далей пасля пачатковай школы, і то ў нашым узросце або і яшчэ маладзейшых. Такія людзі абсалютна не падрыхтаваныя, каб змагацца за свой лёс, звычайна не шукаюць працы, співаюцца і марнуюць сваё жыццё ўжо на старце.

*— Ці, калі б табе запрапанавалі іншую працу, кінула б гэту адразу?*

— Або я ведаю? Ведаеш, ужо я хіба крыху ўцягнулася. І так сабе думаю, можа гэта, што раблю, усё-такі мае сэнс.

Запісаў
**Мікола Ваўранюк**

# ДЗЕТКІ З ПЛЮЦІЧ

*Працяг са стар. 1*

быццам бы ягоны бацька Дзям'ян. Той сказаў паліцыі, што ён бедны селянін і проста не меў грошай, каб купіць падручнік, ды паліцыя ад яго адстала.

Чытаючы пра гэты падручнік, успомніў я расказ майго бацькі пра навуку рэлігіі і сумнае здарэнне, якое мела месца ў ягоным класе ў гэтым самым школьным годзе. Праваслаўная рэлігія была апошнім прадметам, на ўроках якога не абавязвала польская мова. Бацюшка гаварыў як гаварыў, дзеткі адказвалі па-беларуску, і ўсё было добра. Калі бацюшку замяніла ягоная дачка, пачала весці ўрокі па-польску. Тады ўвесь клас змовіўся, каб надалей адказваць па-беларуску Усё-такі адзін хлопец зламаўся і адказаў настаўніцы па-польску. Пасля ўрока, у раздзявальні, аднакласнікі кінулі яго вобзем і прайшліся па ім, адзін за другім, да апошняга. Сапраўды растапталі яго насмерць, бо праз паўгода ад гэтага памёр. Так гулялі дванаццацігадовыя дзеткі ў далёкай Шаркоўшчыне ў 1938/39 школьным годзе.

Дарослыя хутка забываюць пра тое, што думалі і рабілі будучы дзецьмі. Дзеткі тымчасам займаюцца самымі важнымі справамі ў сваім жыцці. Столькі наконт дзіцячых фокусаў.

Цяжка было беларусу ў польскай школе вучыцца, але ж і вучыць беларусаў было нялёгка. Кіраўнік Вайтовіч ад усяго гэтага набраўся лагоднай маніі праследу. Аднойчы на ўроку польскай мовы загадаў Уладзіміру Іванюку (таму Іванюку) сказаць „zdanie rozwinięte". Іванюк сказаў: "Polski rolnik orze pługiem ziemię". На тое Вайтовіч ускрыкнуў: „O ty, komunisto!" Невядома, пра што яму ішло. Відаць, палічыў гэты сказ намёкам на тое, што калі польскі селянін арэ плугам, савецкі калгаснік робіць гэта трактарам. Наогул Вайтовіч быў добрым чалавекам і ніхто нічога да яго не меў. Астаўся нават пры саветах.

Міхал Андраюк, які выдаў Паплаўскага, памёр трагічна ў пяцідзесятыя гады. Пара яму была жаніцца. Хадзіў да дзеўкі, якая яго не хацела, бо невялікі быў, непрыгожы. Дык узяў брытву ў рукі і, гледзячы ў люстра, перарэзаў сабе шыю ад вуха да вуха.

Няма таксама ўжо жывых Мікалая Паплаўскага. У 1939 годзе закончыў ён школу. Пры саветах не вучыўся, кароў пасвіў. (Іншым, на год малодшым, пашанцавала больш. Вучыліся яны ў сярэдняй школе з інтэрнатам у Беластоку. Вучылі іх па руску, хаця гэтай мовы яны не ведалі.) Пры немцах Мікалай быў вывезены разам з сям'ёй „на Прусы", дзе прабыў два гады. Пасля вызвалення і вяртання дахаты прызвалі яго ў польскае войска. Быў „на бандах", г.зн. ваяваў з атрадамі УПА ў радах Корпуса ўнутранай бяспекі (KBW). Пасля войска дадому ўжо не вярнуўся, застаўся „ў Польшчы". Спачатку служыў турэмшчыкам у Варшаве, пазней у міліцыі, працаваў вартаўніком. Пад канец жыцця быў рабочым у металургічным заводзе ў Легніцы, дзе і памёр. Ага, ажаніўся ён з палячкай.

**Алег Латышонак**

# Сенсацыя ў Эрмітажы

У 1945 годзе савецкая армія вывезла з тэрыторыі захопленай Нямеччыны неймаверную колькасць скарбаў культуры. Ужо ў чэрвені гэтага года ў Маскве прызямліўся транспартны самалёт, на борце якога знаходзіліся палотны славутых мастакоў: Эль Грэка, Гоі, Манэ, Дэга ды іншыя скарбы, размешчаны затым у расейскіх музеях. Нямеччына лічыць, што Савецкі Саюз вывез з музеяў, галерэй, бібліятэк і архіваў са сваёй акупацыйнай зоны 500 тысяч розных помнікаў культуры. Толькі невялікую іх частку, 700 палотнаў, у жэсце пралетарскай салідарнасці Савецкі Саюз вярнуў у 1955 годзе Дрэздэнскай галерэі, якую раней дашчэнту аграбіў.

Няма сумнення, што значная, калі не большая, частка ўсіх зрабаваных экспанатаў трапіла ў сховішчы Эрмітажа ў Санкт-Пецярбургу, найбуйнейшага расейскага музея. У заснаваным Кацярынай II у 1764 годзе Эрмітажы зберагаецца каля трох мільёнаў экспанатаў, якія трапілі туды самымі рознымі шляхамі.

Нядаўна Эрмітаж выклікаў немалую сенсацыю аб'явіўшы, што ў пачатку сакавіка выставіць звыш 70 карцін імпрэсіяністаў і постімпрэсіяністаў, канфіскаваных савецкай арміяй у Нямеччыне і 50 гадоў утойваных у сховішчах музея. Шэраг з іх лічылі незваротна загубленымі або знішчанымі і гэтак афіцыйна заяўляў савецкі бок. Пра існаванне іх праўдападобна не ведалі нават загадчыкі Эрмітажа. Планаваная выстаўка зрабаваных скарбаў культуры з'яўляецца першай ад часу II сусветнай вайны. На падобны крок адважыўся толькі Музей імя Пушкіна ў Маскве, які вырашыў зрабіць аналагічную выстаўку ў наступным годзе. У гэтым музеі знаходзіцца 8 тысяч прадметаў залатога скарбу з Трoi. Што тычыцца планаванай выстаўкі ў Эрмітажы, сярод экспанаваных палотнаў маюць знайсціся працы Тулуз-Латрэка, Сезана, Дэга, Манэ, Пісара, Рэнуара і Ван Гога. Цяперашні дырэктар Эрмітажа Міхаіл Пятроўскі назваў, між іншым, малавядомую карціну Ван Гога „Белы дом у начы", закончаную мастаком 6 тыдняў перад ягонай смерцю, і „Плошчу Згоды" Дэга вартую звыш 30 мільёнаў долараў. Большасць палотнаў паходзіць з калекцыі Ота Крэбса з Веймара, а карціны Дэга з прыватнай калекцыі сям'і Герстэнбергаў з Берліна. Пятроўскі паўстрымаўся ад больш падрабязнай інфармацыі, каб заўчасна не выклікаць рэвіндыкацыйных дамаганняў з боку законных уласнікаў.

Хаця да выставы засталося яшчэ некалькі месяцаў, апублікаваная Пятроўскім у Нью-Йорку навіна ўжо выклікала і эмоцыі, і дамаганні. Два спадкаемцы Ота Крэбса ўжо пачалі перамовы з лонданскім аўкцыёнам Софебі наконт продажу 70 палотнаў імпрэсіяністаў, якія яны спадзяюцца атрымаць з Эрмітажа. Дырэктар Дрэздэнскай дзяржаўнай галерэі Вернер Шміт са свайго боку заявіў: „Гэта зграбленыя творы і зразумела, што яны мусяць вярнуцца ў Нямеччыну".

Прызнаючы, што пытанне ўласнасці „павінна быць вырашана ў судзе", дырэктар Эрмітажа заявіў у інтэрв'ю газеце „Нью-Йорк таймс", што „такога тыпу выстаўка ўзбуджае далікатныя пытанні. Мы лічым, аднак, — сказаў ён, — што галоўнае цяпер, каб паказаць, што мы маем ясна і адкрыта". Ён выразна даў зразумець, што ён згодны з меркаваннямі шэрагу палітыкаў і нацыяналістаў, якія канфіскаваныя скарбы лічаць часткай ваенных рэпарацый і кампенсацыяй за знішчаныя нацыстамі расейскія помнікі культуры. Гэтак, між іншым, лічыць дырэктар пушкінскага музея ў Маскве Ірына Антонава. „Гэта немцы напалі на нас, а не мы на іх, — заявіў дырэктар Эрмітажа. — Яны знішчылі неймаверную колькасць нашай культурнай спадчыны. Я не магу, напрыклад, забыць, што мой сын ніколі ўжо не пабачыць ноўгарадскіх фрэскаў і шэрагу іншых рэчаў".

Пазіцыя Расеі пярэчыць Канвенцыі „Аб ахове культурнай спадчыны", якую ў 1954 годзе ў Гаазе падпісаў таксама Савецкі Саюз. Згодна канвенцыі помнікі культуры не могуць быць прадметам ваенных рэпарацый. Незважаючы на настрой ў кіруючых колах Расеі, пытанне ўласнасці гістарычна-культурных каштоўнасцей разглядае ўжо расейска-нямецкая камісія дырэктараў музеяў. Паводле слоў дырэктара берлінскага музея Клаўся Гольдберга, палотны імпрэсіяністаў праўдападобна будуць пасля выстаўкі перададзены Нямеччыне і гэта лагічна, паколькі не маючы намеру вярнуць, не было б і сэнсу пасля паўстагоддзя паказваць іх.

**а. Канстанцін Бандарук**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ДОБРЫ ДЗЯЦЕЛ

*Англійская народная казка*

Ці ведаеце вы, што калісьці ў лесе было зусім ціха. Птушкі не ўмелі спяваць.

Адзіным спеваком быў вецер. Ён шумеў у лісці, скрыпеў галінкамі дрэў.

І вось аднойчы сабраліся птушкі і пачалі размяркоўваць паміж сабою песні. Кожная з іх хацела атрымаць самую прыгожую.

— Мне хацелася б мець самую пяшчотную песню, — сказала галубка.

— А я ўзяў бы што-небудзь вясёленькае, — сказаў чыж.

Зязюля папрасіла, каб ёй далі што-небудзь незвычайнае.

Толькі шэры салавейка адзінока сядзеў і сціпла маўчаў. „Няўжо мне нічога не пакінуць? — думаў ён. — Мая жонка так любіць музыку!..” Дзяцел у гэты дзень аглядаў і лячыў бярозкі ў лесе. Увечары ён скончыў свой абход, прыляцеў на сходку і папрасіў:

— Дайце мне, калі ласка, прыгожую песню. Я заўсёды буду вітаць ёю ўсход сонца.

Яму далі песню. Самую доўгую і самую прыгожую. Але раптам ён заўважыў салаўя.

— А якую песню табе далі? — спытаў дзяцел. — Праспявай яе мне, калі ласка.

— У яго няма песні! — хорам закрычалі птушкі. — Ён нічога не прасіў.

Шкада стала дзятлу салаўя, і ён аддаў яму сваю песню — самую доўгую і самую прыгожую.

Таму дзяцел ніколі не спявае. Але ўсе птушкі любяць і паважаюць яго.

**Пераклаў Я. Дубовік**



*Пазнаёмімся: Малгажата Янчук з Курашава. Сустрэліся мы на аглядзе беларускай песні.* **Фота М. Ваўранюка**

*Юзэфа Драздоўская*

### ЗАЛАТЫ ВЕРШ

— Скажы, матуля, ці ты
напішаш мне верш залаты?

Ліст залацісты клёну
прысеў на падаконніку
і сваім хвосцікам
у шыбу звоніць.

І золатам іскрыцца
ўвесь наш панадворак,
глянь — там вось быццам
бліскучыя зоры.

— Ці такі верш багаты
магу ўзяць дахаты?

Так — толькі на хвіліну
акенца ты адчыніш —
табе той шчодры вецер
золата восені падкіне.

*Пераклаў*
*ВІКТАР ШВЕД*

# ЛІСТАПАД

Лістападаўскія дні павяваюць холадам і сумам. Нізкія, пацямнеўшыя хмары ўшчыльную зацягваюць неба. І з ранку да вечара ідзе і ідзе дробны калючы дождж. Толькі зрэдку выгляне з-за хмар сонца.

Ад пастаянных дажджоў павышаецца ўзровень вады ў азёрах і на рэках, яны выходзяць з берагоў — назіраюцца асеннія паводкі.

Пустынна і гола становіцца на палях. Адзінока чарнеюць па пакосах сціրты нарыхтаваных на зіму саломы і сена ды скупа зелянеюць пасевы азімых. Не чутны ўжо ў небе крыкі жураўлёў — самыя апошнія іх караваны пакінулі родныя мясціны.

Адышлі на „зімовыя кватэры” многія лясныя жыхары. Соладка заснуў у бярлозе мядзведзь. Да самай глыбокай восені назапашваў ён для сябе падскурны тлушч і цяпер усю зіму будзе жыць за кошт яго. Толькі ўспомніць у сне пра салодкі ліпавы мёд і зацмокае ад задавальнення або пачне лізаць засвярбеўшую лапу, з якой злазіць старая адміраючая скура.

Пагрузіліся ў спячку вожыкі, барсукі, янoты. Праўда, барсук часта прачынаецца, іншы раз нават выбіраецца на кароткі час з нары. А янот, добра выспаўшыся, і ўвогуле не супраць час ад часу з паўдня па лесе пабадзяцца — глядзіш, і здабыча надарыцца.

Прыстасоўваюцца да цяжкіх ўмоў птушкі, што засталіся зімаваць. Глушцы, цецерукі і рабчыкі харчуюцца пупышкамі дрэў, дзяўбуць хвою сасны ды шукаюць познюю ягаду. Толькі шустрыя сінічкі не сумуюць і пераскокваюць з аднаго дрэва на другое, вышукваюць у трэшчынах кары насякомых.

Заяц-бяляк па-ранейшаму адседжваецца ў гушчары. Не практыкуе працяглых пераходаў русак. І ліса не выходзіць далёка на раскіслыя ад гразі палі.

Прырода чакае зімы. Асенняя слота і сырая імжа надакучылі кожнаму. Вось-вось пойдзе чысты бялюткі снег і ўсталюецца царства зімы.

## 21

### СВАРКА З РУДЫМ САБАЧКАМ (4)

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

Лявон зноў жа пераступіў права на слова меншаму — брату. Алік вытлумачыў здарэнне даволі арыгінальна, але крыху прасталінейна, як дазваляў яму ўзрост.

— Дзік спачатку забаяўся, — сказаў хлопчык, — пасля яму стала брыдка перад вамі, і ён даў пытлю таму злосніку.

Лявон паправіў акуляры і, не абвяргаючы брацікa, бо паважаў не толькі свае погляды, пачаў разважаць:

— Дзік зрабіў выгляд, што спалохаўся, вось і падашукаў сабачку, спакусіў даганяць.

Нейкім чынам гэта пасавала да маіх назіранняў і да вычытанага з кніжак пра паводзіны сабак у розных абставінах.

— Дык ты думаеш, што Дзік умее разважаць? — спытала Ініна маці Наташа, па прафесіі настаўніца. — Выходзіць, ён склаў план аперацыі?

— Падобна, — крыху збянтэжыўся Лявон.

— Аднак жывёліны не надзелены здольнасцю мысліць. Вам ужо гаварылі ў школе пра ўмоўныя рэфлексы?

— Не, я сам чытаў крыху.

— І што ж?

Хлопец падняў на мяне акуляры:

— Ваш Дзік пярэчыць тэорыі ўмоўных рэфлексаў. І шмат у чым.

Гэта была праўда: сабака лавіў загады і просьбы, не толькі зачуўшы словы, а з аднаго руху ці позірку, і не меў школы, не прайшоў ніякай дрэсіроўкі.

Мы гаварылі далей.

— Па-твойму, Лявон, акадэмік Паўлаў памыліўся? А яго доследы на сабаках пацвярджаюць гэту тэорыю...

— Так. Але, можа, тэорыя не распрацавана да канца...

Нешта падобнае здавалася часамі і мне. Аднак нейкі загадкавы момант у паводзінах аднаго сабакі не даваў ніякіх падстаў сумнявацца ў шматгадовай рабоце вялікіх. Дый яшчэ быўшы амаль невукам у гэтай справе.

І ўсё ж, што адбылося ў парку? Як растлумачыць? Па Лявонавым: зрабіў выгляд, што баіцца. Што шкуматаць меншага і слабейшага ды яшчэ на яго ўласным парозе не дазваляе ніякая этыка? Нават сабачая.

Наконт сабачай этыкі з хлопцам можна было згадзіцца, адносна чалавечай — наўрад. Стала амаль абвыклым: штурхнуць локцем слабейшага па службе і заняць ягоную пасаду, спыніць на вуліцы старога або інваліда, адабраць у яго апошнія капейкі, набіць так, каб не здыхаўся, або ўсадзіць між лапатак нож.

Што тычыцца этыкі дзяржаўнай, дык ці мала на нашай толькі памяці выпадкаў, калі вялізныя дзяржавы пад трохкаляровымі сцягамі ці паласатымі штандарамі з зорамі на простакутніку ўверсе падгібалі пад сябе меншыя прасцягам і сілаю народы? Выграбалі багацці, вынішчалі нацыі фізічна, рабавалі іх духоўна, тапталіся на годнасці і свабодзе? І знаходзілі сабе апраўданне ў вачах свету, маўляў, дапамагаем, баронім ад хцівых суседзяў...

Паколькі тое смешнае і нясмешнае здарэнне адбывалася ў парку амаль усутыч з колішняй сядзібай Якуба Коласа, было вырашана расказаць усё яму.

Што ён скажа?

Канстанцін Міхайлавіч слухаў усмешліва, хоць я і пабойваўся, што магу расхвальваць яго прыгадкаю пра мясціну, дзе нескалі стаяў яго дом, пад дахам якога жыла ўся цалкам, не кранутая вайною і часам, сям'я. І, дарэчы, былі вартаўнікі, вельмі сімпатычныя сабакі.

На шчасце, сумныя прыгадкі абмінулі яго, а пасур'ёнесць Канстанцін Міхайлавіч пасур'ёзнеў:

— Можна сказаць, сабачая правакацыя. А можа, нават стратэгія: задуманы і складзены план аперацыі, як сарваць ворага з ягонай тэрыторыі і пакараць. І бліскучае выкананне...

Надышло маўчанне...

— Трэба думаць, — зноў пачаў Канстанцін Міхайлавіч, — розум жывёл і не такая ўжо няпэўная катэгорыя, як мне здавалася. Толькі ў жывёл сыплюць трохі больш цукру, чым трэба. Скажам, пра дэльфінаў шмат наманена.

Як ні дзіўна, развагі школьніка Лявона перагукваліся са словамі акадэміка Коласа.

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

5

### Красворд

Красворд — не толькі гульня, але і эфектыўны сродак развіцця мовы, цікаўнасці, пісьменнасці. Каб рашыць красворд, трэба так падабраць слоўныя эквіваленты да прыведзеных слоў або іх значэнняў, каб усе літары на перакрыжаваннях ліній супалі. Гэта, па сутнасці, работа над сінонімамі: слова або выраз, якія дадзены ва ўмове, сінанімічныя да слова, якое трэба адгадаць, адшукаць.

У рашэнні гэтых моўных задач ёсць правілы. Так, спачатку трэба прачытаць умовы па гарызанталях і вертыкалях, адначасова ўпісваючы ў клеткі толькі тыя словы, у адпаведнасці якіх вы ўпэўнены. Затым — зноў усё спачатку, і зноў, і яшчэ раз: лягчэй адгадаць слова сярод некалькіх магчымых, калі ўжо ёсць упісаныя раней падказкі-літары. Парушэнне гэтага правіла, арыентацыя толькі на колькасць літар у слове вядзе да таго, што ўпісваюцца не тыя словы.

Калі красворды рашаюцца на конкурсе (па фотакопіях), за кожнае адпаведнае слова даецца бал, а за кожнае выпраўленне — здымаецца. Сапраўдныя перамožцы ў разгаданым красвордзе не маюць ніводнага выпраўлення.

Калі красворд разгадваецца камандай, то трэба старацца ўспомніць слова самастойна і толькі пры неабходнасці звяртацца да даведнікаў (дапушчальна — не больш пяці разоў; звыш — за кожны раз бал здымаецца). За поўную самастойнасць дадаецца дзесяць балаў. Зварот да арфаграфічнага слоўніка можна не ўлічваць.

На прынцыпе красворда заснаваны шэраг іншых гульняў: чайнворд, крыжаслоў, соты і інш.

### Перакрыжаванні

Задумана слова, напрыклад *Аўрора.* Да яго трэба падабраць перакрыжаванні — знайсці яшчэ тры словы, размясціўшы іх наступным чынам:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Е | | | г | |
| А | ў | р | о | р | а |
| | р | | | э | |
| | о | | | л | |
| с | п | е | ш | к | а |
| | а | | | а | |

*Варыянт:* Перакрыжаванне павінна быць тэматычным — гэта значыць, што тры падабраныя словы павінны быць звязаныя з задуманым адной тэмай, якую трэба правільна вызначыць (стравы, імёны, транспарт і інш.):

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | в | | м | |
| ж | ы | р | а | ф |
| | д | | р | |
| а | р | х | а | р |
| | а | | л | |

За памылку не лічыцца, калі адно слова розныя ўдзельнікі аднеслі — і правільна — да розных тэм: гэта бывае, калі словы з'яўляюцца амонімамі.

Цікава складаць і перакрыжаванні-жарты. Яны абавязкова каменціруюцца (у нечаканасці каментарыяў і заключаецца жарт). Умова тая ж: тэматычнае перакрыжаванне да слова, напрыклад, *варона* і *гняздо* — сувязь відавочная, а *Каўказ?*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | К | | | г | |
| в | а | р | о | н | а |
| | ў | | | я | |
| | к | | | з | |
| к | а | л | о | д | а |
| | з | | | о | |

Адказ такі: і на Каўказе вароны ёсць. Пры чым жа тады *калода?* — дык варона тая на калодзе сядзела!

Гуляць у перакрыжаванні можна ўдваіх і камандамі, з папярэдняй падрыхтоўкай і экспромтам. Можна задумаць агульнае для ўсіх слова (на хуткасць) або розныя (на колькасць), а таксама ўзятыя адвольна (на дасціпнасць). Абумоўліваецца толькі адна для ўсіх колькасць літар — пяць, шэсць, сем або восем. Са слоў, у якіх сем і больш літар, можна складаць трайныя перакрыжаванні.

*(працяг у наступным нумары)*



*У час адной з экскурсій дзеці, што ў жніўні адпачывалі на летніку ў Адрынках каля Нарвы, наведалі Дом пенсіянераў у Ялоўцы. Бабулі і дзядулі, што тут пражываюць, былі вельмі ўзрушаныя сустрэчай. Спадарыня Ніна Мушынская, заснавальніца Гарадоцкага хору (на здымку ў вышыванай беларускай кашулі) запрасіла дзяцей з апекунамі ў свой пакой.*

**Фота М. С.**

З гісторыі Беларусі

# ДРУЯ

Даследчыкі ў галіне розных навук сцвярджаюць, што яшчэ задоўга да таго, як на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явіліся славяне, тут, у некаторых мясцінах, жылі балцкія плямёны. Таму і не дзіўна, што ў назвах нашых населеных пунктаў, рэчак, азёраў, узвышшаў сустракаецца многа балцкіх моўных каранёў. Вось і Друя пайшла, хутчэй за ўсё, ад назвы невялічкай рачулкі Друйкі, што ў дакладным перакладзе азначае — „шырокая", „бурная". Зараз рэчка гэтая ледзьве прыкметная, а раней была зусім іншай.

Людзі гавораць, і паданні гэтыя перадаюцца з пакалення ў пакаленне, што па рэчцы, якая яшчэ, можа, і назвы сваёй не мела, нашы старажытныя продкі сплаўлялі плыты, сюдою плылі шматлікія купецкія судны. Рэчка была магутная, каварная, на ёй мноства віраў і буктаў, ля якіх баяліся праплываць нават самыя вопытныя купцы і плытагоны, бо з імі звязваліся надзвычай жахлівыя ўспаміны сведкаў. З гэтай нагоды да яе лепш падыходзіла назва „бурная", але ж на працягу года былі тыя часіны, калі рэчка станавілася больш-менш спакойнай. Вясной, калі яна залівала ўсе навакольныя лугі і палі, гублялася рэчышча, па якім трэба было накіроўваць плыты, і тады яны садзіліся на мель. У такіх выпадках трацілі грошы, але заставаліся жывымі. Недзе з тых часоў засталося ў народзе выслоўе „нічога, што згубіў, але нешта і пакінуў".

З цягам часу, калі княскае валадарства распаўсюджвалася не толькі на земляныя і лясныя абшары, але і на водныя шляхі таксама, паўсюдна на ўзбярэжжах пачалі будаваць шматлікія пункты для збору аплаты за правоз грузаў. Ля іх знаходзіліся спецыяльныя службы, якія пастаянна жылі тут жа. Распавядаюць, што адзін з такіх вось пунктаў быў на месцы сучаснай Друі. Мясцовыя жыхары, а спачатку імі былі толькі тыя, хто адносіўся да княскіх назіральнікаў, рэчку пачалі зваць на балцкі лад — Друйка, бо чулі, як яе называлі шматлікія гандляры з балцкіх краін. Друйка ды Друйка, а потым і паселішча стала Друйкай, ад назвы ракі, ці Друяй, як і захавалася да нашых часоў.

**Аляксей Ненадавец**

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

*Ала Канапелька*

### „ХОДЗІКІ"

Запытайце, колькі часу —  
адкажу я вам адразу.  
У мяне дакладны час,  
Я стараюся для вас.

На дзвюх ручках — левай,  
правай —  
па гадзінніку,  
У дзвюх сумачках пры справе —  
па будзільніку.

З бранзалеткаю, што ў модзе,  
дарагі і лепшы самы,  
у мяне на ножцы ходзіць  
шчэ адзін гадзіннік мамы.

Ї хаджу, хаджу па дому,  
не жадаю ведаць стому...  
Кажуць, я ў два годзікі  
не дзяўчынка — „ходзікі"!

# Лагагрыф



1. даўнейшы манарх, м.інш. у Польшчы, 2. дарагі метал жаўтаватага колеру, 3. кавалак цвёрдай пароды, многа іх можна ўбачыць на полі, 4. знак прыпынку, якім канчаецца сказ, 5. высокі магільны насып, 6. смачны трапічны плод, з выгляду падобны да вялікай шышкі.

Адказам будзе назва прыбора, які дапамагае вызначыць нам напрамкі свету.

Адказаў чакаем два тыдні. Узнагарода — кніжка.

# НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

Да доктара прыйшоў мужчына:
— Дапамажыце, дарагі доктар, жонцы ўсё горш і горш. Ніякія лекі не дапамагаюць.
— А п'яўкі спрабавалі?
— А як жа! Тры з'ела, а болей — нізавошта!

* * *

Бухгалтар правярае справаздачу, якую зрабіў службовец, калі вярнуўся з камандзіроўкі.
— Што гэта за астранамічная сума?
— Рахунак за гасцініцу.
— А хто вас упаўнаважваў купляць гасцініцу?

* * *

Вайсковы хірург прыходзіць зранку ў шпіталь.
— Нічога новага не адбылося з учарашняга дня? — пытаецца ён у дзяжурнай медсястры.
— Не, нічога, — адказвае яна. — Вось толькі ваш хворы з дыягназам „сімулянт" памёр.

* * *

— Мілы, схадзі ў магазін!
— Ведаеш, на вуліцы такі дождж, што нават сабака не захоча...
— А ты схадзі без яго!

* * *

— Еш, кумок, клёцкі. Я ж іх не лічу — сама гатавала.
— Дзякуй, кума, ужо і так чатыры з'еў.
— Няпраўда, кумок, — шэсць.

Якія мы людзі

# КЛЯНОК

Як трыццаць гадоў стаіць блёк, людзі такога дазорцы не памяталі. Будзем яго так і называць: „дазорца", бо і як жа найлепш было б сказаць — дворнік, прыбіральшчык, стораж?.. Рабіў жа ўсё.

Паявіўся на панадворку восенню мінулага года. Заўсёды акуратны, у прыгожай куртцы ды шапцы, ён заўзята чысціў алейкі вакол дома — якраз восень пазасыпала іх жоўтым лісцем. Ніколі дагэтуль не было тут такога чалавека, каб зграбаў лісце з дарожак граблямі, тады замятаў мятлою, а пасля яшчэ чысціў іх шчоткаю.

Людзі дзівіліся і шапталі паціху: „Мо дзесь заграніцай прыбіраць вучыўся...". І, самі не ведаючы таго, адгадвалі праўду: калі пару гадоў таму страціў быў працу, дык выехаў (праўда, усяго на паўгода) за акіян, каб падзарабіць дзецям на хлеб. Але ці там працаваць навучыўся? Можа меў гэта ў крыві...

І яшчэ шапталі некаторыя, але ўжо зусім ціхенька, што чалавек гэты быў з універсітэцкай адукацыяй. А чаму ў сваe сорак гадоў працу страціў — ніхто канкрэтна не ведаў. Адны казалі, што быццам праўду ў вочы рэзаў і быў нявыгадны начальству, другія — што стаў прыхворваць, а хворы працаўнік каму ў капіталізме патрэбны?!. Далі нават нейкую рэнту, але ці з рэнты ўтрымаеш дваіх дзетак у школьным узросце...

Вельмі, вельмі ўцешыўся, калі знайшоў яшчэ працу дазорцы. Спачатку ўсё быццам апраўдваўся перад людзьмі: калі хочаш жыць, патрэбны рух, казаў. А пасля ўжо нічога не гаварыў. Толькі часамі, прысеўшы на лавачцы ля эмерытаў, каб з'есці канапку, любіў уключыцца ў палітычную дыскусію. І тады людзі маглі пераканацца, што погляды яго не былі занадта „слушныя". У іх галовах нешта праяснялася.

Але, праўду кажучы, на размовы часу дазорца зашмат не меў. А шостай гадзіне раніцы чуваць быў ужо ціхі шорах яго мятлы пад вокнамі. Калі жыхары блёка разыходзіліся на працу, пачынаў прыбіраць у пад'ездах. Кожны другі дзень мыў лесвіцу. У блёку стала свяжэй, а чалавек меў занятак аж да трэцяй.

Зіма была, як на злосць суровая. Снег сыпаў і сыпаў. А быў мокры і надта ляпіўся. Утрамбоўваўся хутка. За дзень мо і дваццаць сантыметраў на дарожках наляпілася. Быццам прырода ведала, што цяпер можна сыпаць снегам, бо ёсць каму прыбіраць.

Дазорца штодзень тоўк цвёрды снег ды лёд ломам, збіраў усё гэта шуфляю, вывозіў некуды на тачцы. Быў нястомны, толькі часамі, скінуўшы куртку, выціраў мокры ад поту лоб.

А людзі — як людзі. Ну, што вы так стараецеся? Ці ж снег трэба прыбіраць аж да тратуару? Можна ж пяском пасыпаць... Ну, як гэта так? — не верыў сваім вушам дазорца. Снег трэба прыбіраць!

Надышла доўгачаканая вясна. Дазорца замяніў шэрую куртку і такую ж шапку на сіненькі халат і сінюю лёгкую шапачку. Цяпер дык было яму працы! Толькі ў нядзелю не прыходзіў, працаваў ва ўсе суботы. Праўда, не прыйшоў і на праваслаўны Вялікдзень. Нарэшце мог пасвяткаваць па-свойму, па-праваслаўнаму: ранейшы шэф такой фанабэрыстасці не прызнаваў — заўсёды, калі той хацеў звольніцца на пару дзён, сцвярджаў, што ягоныя святы ўжо былі. Здаецца, працаваў у нейкай прыватнай фірме — а ім там, кажуць, законаў не пішуць.

Дазорца чысціў панадворак пасля доўгай, цяжкой зімы. Сплоўваў сухія дрэвы і выкарчоўваў кусты дзікай ружы, якія лезлі на дарожкі. Раз у месяц абавязкова падстрыгаў траву на заселянеўшымся панадворку.

І прыйшло яму ў галаву, каб зрабіць градкі з кветкамі не толькі з сонечнага, паўднёвага боку блёка, але і з паўночнага, занядбанага. Людзі не верылі, што і там можа нешта вырасці, і ставілі пад самымі вокнамі самаходы, дзеці гулялі там у свае гульні.

Невядома адкуль нацягаў чорнай зямлі, насыпаў на ўскапаныя градкі. Пананосіў кусцікаў і саджанцаў кветак з свайго агарода, пазычаў — што лепшае і любіць цень — ад суседзяў, а нават сеў на ровар і з лесу прывёз маленькія кусцікі папараці, бо колькі не прасіў жыхароў блёка, каб самаходам хтось прывёз папаратку, пра якую марыў, то так і не дапрасіўся. Людзі не марнуюць сёння бензін на харасство.

А ўсё ж, калі кветкі пачалі цвісці і на панадворку павесялела, у людзей пацяплела на сэрцы. Прыемна ведаць, што нехта думае пра цябе.

Толькі адміністратарка блёка, тая, што дбае пра блёк і яго жыхароў, з крывой усмешкай запытала дазорцу: „Навошта вам гэта? Мы ж вам і так за гэта не заплацім!" „Ну, і што!.. — не суняўся чалавек. — Але кветкі будуць!"

Ну, і што ты тут сапраўды зробіш, калі на душы ў чалавека было калярова!

Прадметам асаблівага гонару дазорцы быў маленькі, кволенькі кляночак, які ён выкапаў недзе ў парку. Як ён хадзіў каля гэтага клянка, як паліваў у сухое лета, як падпіраў калочкам! І клянок на дзіва добра прыжыўся. А з удзячнасці, бадай, за яго стаpанні, пачаў расці як на дражджах. Выглядала, што пад вокнамі блёка зашуміць калісьці разложыстае дрэва з цэлай гамай колераў у асеннюю пару.

Ужо клянок мерыў мо восемдзесят сантыметраў, калі прыўважыла яго сварлівая баба гадоў шасцідзесяці з трэцяга паверха і пачала мучыць дазорцу, каб выкінуў гэта дрэўца. Вырасце вялікі клён, кажа, заслоніць маё акно, дык што я праз яго ўбачу?! І так свету не відаць.

І раз сказала гэтак, і другі, і трэці.

Ну, падрэжу, кажу вам, — дэклараваў дазорца. Няхай толькі падрасце. Я ж з усіх кусцікаў хачу жываплот зрабіць.

Ну, не магла яго рука крануць гэта кволае стварэнне...

А баба гаварыла, гаварыла, ды яе цярплівасць скончылася. Аднойчы прыходзіць дазорца на працу, а клянка няма. Толькі дзірачка, зусім невялікая, па ім засталася.

У гэты дзень дазорца быў дзіўна маўклівы. Дзірачку засыпаў і зраўняў, быццам пахаваў кагосьці.

Дрэўцаў больш дазорца не садзіў. А баба — як баба. Нарэшце супакоілася. Клянок ёй свету ўжо не заслоніць, хаця трэба было б яму расці да таго доўгія гады.

***

Наіўная аптымістка, яна збіраецца яшчэ доўга жыць...

**Ада Чачуга**

# Бібліяграфія ўсходняга хрысціянства

Айцец Рыгор Сасна з Рыбалаў апошнім часам прызвычаіў нас да таго, што кожны год выходзіць чарговы том апрацаванага ім бібліяграфічнага даведніка ці падборкі крыніц аб праваслаўі на Беласточчыне. І, вось нядаўна друкарню „Orthdruk" пакінуў яго чарговы том такога ж даведніка.

У згаданай працы даецца спісак польскамоўных публікацый сучаснага перыяду (у асноўным з 1944—1993 гадоў, а часткова нават да 1994 г.), якія тэматычна датычаць усходняга хрысціянства. Нягледзячы на тое, што гэта „ўступная бібліяграфія", змешчаны ў ёй лік публікацый можа выклікаць у чытача галавакружэнне, паколькі ён дасягае амаль 6 тысяч анатацый, а фактычна больш, тады як напрыклад пад адным нумарам называецца кніжка і пералічваюцца ўсе яе рэцэнзіі (і палемікі), змешчаны ў розных часопісах, або таксама пад адным нумарам пералічваюцца розныя артыкулы ў нейкай энцыклапедыі ці слоўніку, напісаныя тым самым аўтарам (у іншай версіі — называюцца: загаловак энцыклапедыі і далей усе артыкулы, якія датычаць усходняга хрысціянства).

Названыя публікацыі маюць розны характар і датычаць таксама розных аспектаў хрысціянства. Зусім нярэдка пералічваюцца кніжкі. Шмат ёсць і навуковых, спецыялістычных распрацовак, змешчаных у такіх жа часопісах, перыядычных выданнях. А ўжо безліч маем артыкулаў, заметак, інфармацый надрукаваных у газетах, так цэнтральных, як і рэгіянальных, мясцовых або бюлетэнях. Не абмінуў аўтар нават картаў ці кружэлак.

Лістаючы бібліяграфічны даведнік, лёгка можна саставіць авангард аўтараў. Найбольш публікацый на тэму ўсходняга хрысціянства напісалі (прозвішчы падаю паводле польскага алфавіту): Мар'ян Бэндза, Павел Главацкі, а. Вацлаў Грыневіч, Антоні Гжэськовяк, Леанард Гурка, епіскап Іерэмія, Кароль Карскі, Анджэй Кэмпфі, Серафім Кірыловіч, а. Ежы Клінгер, Вацлаў Карабевіч, Сэрафін Корчак-Міхалеўскі, Рышард Лужны, Станіслаў Маркевіч, Антон Мірановіч, Лешэк Машыньскі, Аляксандр Наумаў, Ежы Навасельскі, а. Павел Палка, а. Генрык Папроцкі, Уладзімір Паўлючук, Збігнеў Падгутэц, Гжэгаж Поляк, Эдмунд Пшэкап, Ежы Русэк, еп. Сава, Казімеж Урбан, мітрапаліт Васіль, Тадэўш Вышамірскі.

Разнастайнасць і лік крыніц выклікае здзіўленне і адначасова пашану для аўтара бібліяграфіі. Проста не хочацца верыць, што гэты том склаў усяго адзін чалавек. Узнікае пытанне (і цікаўнасць заадно), сколькі дзён мусіў а. Рыгор прысвяціць на пошукі ў розных бібліятэках, архівах, прыватных калекцыях? А ён жа адначасова нясе штодзённую душпастырскую паслугу!

Бібліяграфію папярэджваюць уводзіны (на польскай і беларускай мовах) д-ра Антона Мірановіча і пералік некаторых (каля 230 найменняў) улічаных у томе часопісаў. Адкрываюць кніжку паказальнікі — імянны і геаграфічны, якія выдатна памагаюць адшукаць канкрэтную публікацыю. На ўнутраных бачынах вокладак даюцца рэпрадукцыі трох картаў, якія паказваюць распаўсюджванне хрысціянства ў сярэдневякоўі, размяшчэнне праваслаўных цэркваў на Балканскім паўвостраве ў XIV ст. і на рускіх землях у XIII ст. На апошняй вокладцы знаходзіцца артыкул А. Мірановіча на тэму ранейшых кніжак а. Рыгора Сасны, змешчаны ў адным з сёлетніх нумароў „Przeglądu Prawosławnego".

Том выдадзены наогул старанліва, эстэтычна, хаця час ад часу ў вочы кідаюцца друкарскія памылкі (асабліва бачны ва ўводзінах).

Вартасць згаданай публікацыі для тых, хто ў Польшчы займаецца ці цікавіцца ўсходнім хрысціянствам, проста неацэнная!

**Пётр Байко**

---

*) *Ks. Grzegorz Sosna, Wstępna bibliografia chrześcijaństwa wschodniego, Druki polskojęzyczne okresu współczesnego, Orthdruk, Ryboły 1994, str. XII, 497.*

# ЮБІЛЕЙ БЕЛАВЕЖСКАЙ ЦАРКВЫ

Радасныя дні перажывалі вернікі праваслаўнага прыхода ў Белавежы 13 і 14 кастрычніка г.г. Святкавалі яны сотую гадавіну існавання сваёй мураванай царквы Св. Мікалая Цудатворца. Праўда, гадавіна гэтая выпадае дакладна 22 студзеня 1995 г. (паводле старога стылю), але святкаванні вырашана наладзіць раней, у прыхадское свята — на Пакрову.

Святкаванні пачаліся 13 кастрычніка, пасля гадз. 14, з сустрэчы прыхаджан і запрошаных гасцей у Белавежскім асяродку культуры. З прывітаннем і ўводным словам выступіў настаяцель белавежскага прыхода айцец Сяргей Корх, які душпастырскую службу нясе тут ужо 15 гадоў. Затым з прамовай выступіў Яго Блажэнства мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій. Першаіерарх гаварыў, між іншым, пра гісторыю царквы і самой Белавежы, пра справы веры і небяспек, якія ёй пагражаюць, а таксама пра стаўленне да іх вернікаў. Не пазбег прамоўца і беларускіх акцэнтаў, працытаваўшы фрагмент вядомага верша Якуба Коласа „Мой родны кут".

Далей адбылося нешта накшталт навуковай сесіі. Спярша рэферат на тэму гісторыі Праваслаўнай царквы на Беласточчыне прачытаў а. Рыгор Сасна з Рыбалаў. Пасля, з дакладам аб гісторыі праваслаўнага прыхода і царквы ў Белавежы выступіў аўтар гэтых радкоў.

На заканчэнне ўрачыстасці ў Доме культуры, з паўгадзінным канцэртам выступіў маладзёжны хор Беластоцка-Гданьскай епархіі ў Беластоку пад кіраўніцтвам а. Аляксандра Лысынкевіча. Затым усе прысутныя былі запрошаны на салодкі пачастунак у суседнюю залу.

У той жа дзень, а гадз. 17 пачалося ўрачыстае вячэрняе набажэнства, якое адправіў мітрапаліт Васілій у саслужэнні шматлікіх прадстаўнікоў беластоцкага духавенства, запрошаных на святкаванні. Пасля заканчэння набажэнства ў прыхадскім доме адбылася ўрачыстая вячэра.

14 кастрычніка г.г. галоўным пунктам святкаванняў была Святая літургія, якую ўзначаліў мітрапаліт Васілій. Пасля Хрэснага ходу мітрапаліт яшчэ раз выступіў з прамовай да прыхаджан і гасцей, якія запоўнілі шчыльна амаль увесь царкоўны пляц з боку ўвахода ў храм.

Потым былі ўручаны ўзнагароды людзям, якія асабліва заслужыліся для белавежскага прыхода, прызнаныя Св. Сінодам епіскапаў Праваслаўнай аўтакефальнай царквы ў Польшчы. Ордэны Св. Марыі Магдаліны II ступені атрымалі: Клара-Ліза Корбаз-Дуванель — пастар пратэстанцкага прыхода ў Лазане (Швейцарыя), мгр Генрык Мар'янскі з Гайнаўкі — былы начальнік гміны ў Белавежы і ніжэйпадпісаны — аўтар манаграфіі белавежскага прыхода; Ордэны III ступені прысвоены: Сцяпану Шпаковічу — царкоўнаму старасту, Сяргею Доўбышу — скарбніку, Марыі Габец — псўчай, Софіі Валкавыцкай — кіраўнічцы гасцініцы „Іва", Мікалаю Галёнку — дырэктару мясцовага Дома грамадскай дапамогі і абодвум царкоўным хорам (дзіцячаму і дарослых). Амаль дзесяць чалавек атрымалі ганаровыя граматы.

Двухдзённыя святкаванні закончыў багаты абед у прыхадскім доме.

Урачыстасць у Белавежы коратка адзначылі беластоцкія газеты і радыё. Яе ход быў таксама запісаны на відэакасету.

**Пётр Байко**

 

# ПРАПАДОБНЫ ІААН РЫЛЬСКІ

1 лістапада (19 кастрычніка па старому стылю) Царква ўшаноўвае памяць вялікага святога балгарскай зямлі Іаана Рыльскага. Паходзіў ён з вёскі з ваколіц сталіцы Балгарыі Сафіі, якая тады называлася Срэдзец, а ў старажытнасці — Сердыка.

Святы Іаан з юнацтва схіляўся да манаскага пустэльніцкага жыцця. Пасля смерці бацькоў раздаў ён усю маёмасць і пакінуў роднае сяло, беручы з сабою толькі скураную вопратку, якую меў на сабе. Спыніўся ён у адасобленым месцы на схіле высокай гары. Аднак, не прыйшлося яму доўга затрымацца ў гэтым месцы. Неўзабаве напалі на яго разбойнікі і прагналі адтуль. Тады Св. Іаан пайшоў шукаць сабе чарговае прыстанішча.

Знайшоў ён закінутае сярод гор і лясоў месца над ракой Рыла. Было яно настолькі недаступнае, што назвалі яго Рыльскай пустэльняй. Тут Святы правёў у адзіноце звыш паўвека. За гэты час ён не бачыў людзей і харчаваўся толькі раслінамі. Ягонае аскетычнае жыццё было запоўнена малітвай, постам і роздумамі аб Богу. Кватэрай яму было дупло ў старым дрэве. Урэшце, па волі Божай, людзі даведаліся аб гэтым месцы і аб вялікім падзвіжніку. Адкрылі яго пастухі, шукаючы сваіх авечак, якія спыніліся ў тым месцы, дзе жыў прападобны Іаан. Неўзабаве вестка аб ім разышлася далёка і да яго пачалі прыбываць хворыя і калекі, якія пасля малітваў святога атрымоўвалі выздараўленне.



Паблізу пустэльні сталі таксама пасяляцца іншыя прыхільнікі манаскага жыцця. У суседняй пячоры была наладжана царква, а неўзабаве ў гэтым месцы быў заснаваны манастыр, якога ігуменам стаў Святы Іаан. Ён, як добры пастыр, многіх няверных прывёў к Госпаду, ад якога атрымаў дар здзяйснянне цудаў.

Святы Іаан памёр у глыбокай старасці ў 946 годзе, а заснаваны ў пустэльні манастыр, які да сённяшняга дня з'яўляецца адным з найбольш вядомых балгарскіх манастыроў, называецца Рыльскім.

**С.Н.**




*БАРЫС РУСКО*

### Таямніца

Іду за заслону...
Звілістай сцежкай брыду ў гушчары,
Лірычны пейзаж, неаднастайны.
Плоскасць Спакою ў кіпучы
вядзе Акіян.
На Нібыдрэвах плод Мікра
і плод Макра.
Адно плодзіць другое.
Рух заваражаны ў нерухомасці,
нерухомасць — у руху,
здань — у рэчаіснасці,
рэчаіснасць — у здані.
Колер дорыць пах,
пах — колер.
Камар смяецца песняй птушынай,
птушка — камарынай.
Чую, у мяне голас іншых.
Іншыя ўзнімаюць мой заваражаны
крык.
Уліваецца Пункт у Звышвелічыню,
Звышвелічыня — у Пункт.
Час скача.
Стаю на каленях ля наступнай
заслоны.

### Гульня чарадзея

У неабазначанасці нешта з гульні
чарадзея.
У тым, чаго не ўцямлю — рэшта
магчымасці.
Выйдзі з сябе — і пералічыш
узаемазменныя
з'явы і цені.
Толькі як зрабіць, каб выйсці з сябе.

# ІКОНЫ

**Частка VIII**

Каля васьмі гадоў таму назад была ўзведзена на рацэ Нарве дамба, недалёка ад вёскі Рыбакі. У выніку ўзнікла вялікае вадасховішча, названае Семяноўскім. Былі ліквідаваны вёскі Лука, Гарбары, Боўтрыкі, Рудня, Буды. Для жыхароў гэтых вёсак былі ўзведзены ў маіх Бандарах чатырохпавярховыя многакватэрныя дамы. Людзі былі пырмушаны пакінуць свае адвечныя сялібы і пасяліцца ў падгарадскім пасёлку. Пажылыя пераселенцы вёсак захавалі сваю мову, аднак да дзетак усе пагалоўна гаворань па-польску. Практычна я ўсіх іх ведаю, прынамсі з выгляду. І таму заўсёды мінаючыся, вітаюся з імі як з блізкімі мне людзьмі. У 1989 годзе ў ліпеньскую нядзелю правёў я размову з групай пераселеных жанчын, якія, кіруючыся адвечным звычаем, выйшлі ў святочны дзень пасядзець на лаўцы. У групе шасці жанчын знаходзіліся асобы прыблізна ад 45 да 70 гадоў. Жанчыны ахвотна ўключыліся ў размову аб іконах. Прывяду тут найбольш характэрныя іх выказванні:

„Іконы? Яны ў нашых хатах былі вечна. Пры нашых прадзедах і дзядах. Пры нашых бацьках і пры нас таксама. І напэўно будут пры нашых дзецях і пры нашых унуках. Хата без іконаў то была б не хата, а якісь хлеў".

„Ну, яно ведомо, што ў хлевах у нас то ніхто іконаў не вешае. Бо і якжэ вешаць ікону ў такой нечысці і смуродзе. Гэто быў бы грэх. Але нашы людзі вешают іконкі ў клунях або ў свіронках. Ну, значыцца там, дзе знаходзіцца збожжо. Збожжо то яно заўшэ чыстэ. А калі чыстэ, то і мілэ Богу".

„А от я не знаю, чом яно так ужэ ў нас завелосе, што ў клуні то мы іконы трымалі, а ў хлевах то не. А то ж і Хрыстос нарадзіўся ў хлеве і яго вол абаграваў сваім духом. Ну, то калі Хрыстос нарадзіўсе ў хлеве, то чом гэто ні можно трымаці там іконоў? То ж навет я бачыла такую ікону, на каторай было паказано, як малы Хрыстос лежыт на сене ў катушку, а вол дыхае на яго, каб абагрэць дзецятко. А кроме гэтого то ведомо, што не толькі чалавек, але і кажды звер, і птушка, і казяўка то ўсё гэто боскае стварэнне. Калі б не боска воля, то нічого такого не было б на свеці".

„То што ты хацеў бы, каб людзі вешалі абразы навет у свінятніках? То ж ведомо, што хлеў то ест хлеў і якжэ так можэ быці, каб людзі вешалі там тое, што святое? Я то вельмі люблю ў цэркві гледзець па сцене, дзе вісят іконы або па іканастасе або на райскіе дзверы. Мне здаецца, што кажды святы глядзіт толькі на мяне, бачыт кажды мой грэх і так без голасу гаворыт: „Жыві па совесці, чэсно, ні рабі зла, памагай людзям, шануй старых, працуй, не ашуквай і, барані Божэ, не крадзі. От, таму і патрэбна ікона для кожнага чалавека. Яна ж глядзіт на нас і кіруе нас на добру дарогу. Вы ж бандарэц, а бандарцы та яны не вельмі веруючы або і вогуле не верат, але ікона то вісіт тут у каждай хаце. Навет Яначко (Іван Бура), каторы цэлэ жыце грызсе з бацюшкамі, то навет ён іконы з сцены не скінуў. Мне то здаецца так: часам то некаторым здаецца, што нічого святого на свеці німа. Але небось, калі такого недаверка толькі прыцісне бяда, то і ён зараз зварочваецца да Бога. А як толькі бяда праміне, то ён зноў пра Бога забыўсе. Тож навет у пасловіцы гаворыцца: „Як трывога, то да Бога, па трывозі, то і па Бозі". Такіе людзі то яны найбольш грэшны і нібось, Бог усё гэто бачыт і такому чалавекаві то после смерці ўсё Бог прыпомніт. А ведаю, што за грахі пры жыцці трэбо будзе атвечаць после смерці. Я ўжэ доўге жыце пражыла, але ў гэтым жыці то не было ні аднаго такого дня, коб я ні бачыла іконы. І не толькі я бачу, але і да яе малюсе. Малюсе вечаром а часом, пры свяці, то і ўдзень згавару малітву. Як толькі ўсе выдут з хаты, то я вазьму і сабе памалюсе да образа. Памалюсе і на сэрцы мне стае лягчэй".

**Алесь Барскі**

# СЛОВА БОЖАЕ НА НЯДЗЕЛЮ

У 19 нядзелю пасля Пяцідзесятніцы чытаецца ўрывак з 8 раздзела Евангелля паводле Лукі. У ім цытуецца прытча пра сейбіта, сеянае якім зерне, падаюы на розны грунт, прыносіць неаднолькавы плён. Прытча сама паясняе, што пад зернем разумеецца Слова Божае, якое знаходзіць у чалавечым сэрцы неаднолькава падатлівы грунт і можа або засохнуць, або прынесці багаты плён. Галоўная думка прытчы такая, што чалавек павінен усвядоміць сабе каштоўнасць Божага Слова, і, усвядоміўшы, належным чынам прымаць яго і паводле яго жыць.

Сінонімам Божага Слова з'яўляецца Святое Пісанне званае Бібліяй. На працягу адзінаццаці стагоддзяў звыш сарака боганатхнёных аўтараў перадалі ў пісьмовай форме універсальнае Слова, якое Бог накіроўвае да ўсіх часоў. Біблію разглядаюць і ўспрымаюць па рознаму: як святое пісанне або як помнік літаратуры, аднак з любога пункту гледжання гэта незвычайны твор.

Біблія — сусветная кніга, адзіная, якую чытаюць усе народы і расы. Яна перайшла ўсе межы: нацыянальныя, класавыя, царкоўныя. Яна перакладзена на звыш 1300 моваў і дыялектаў свету. Еўрапейская цывілізацыя, якою слушна ці няслушна ганарымся як вядучай з ейнай культурай, законамі і мараллю, непасрэдна асноўваецца на Біблії. Незлічоныя біблейскія сюжэты, паняцці і вобразы натхнялі сусветнае мастацтва, літаратуру і філасофію. Для прыкладу, Шэкспір зачэрпнуў са Святога Пісання каля 500 думак і фразаў. Калі б адкінуць біблейскую першакрыніцу, творы Мікеланджэла, Рафаэля, Леанарда да Вінчы і Рэмбранта, гэтак жа як і Баха, Моцарта, Гендэля, Брамса ды іншых былі б зусім незразумелыя.

Ад пачатку стварэння свету да нашых дзён Біблія ніколі не змяняла свой погляд на Бога і чалавека, на грэх і святасць, на жыццё зямное і пасмяротнае. Праўды, выказаныя ў Святым Пісанні нязменныя і няўхільныя. Не змяніўся погляд Біблії ў пытанні паходжання сусвету, жыцця, святла, энергіі, руху, прасторы, калі навуковыя праўды множства разоў адхіляліся і адны адным запярэчвалі. Бог адкрыў сваім слугам „навуковыя" праўды тысячагоддзі раней, пакуль яны сталі вядомыя вучоным...

Асабліва таму, што ў шэрагу камуністычных краін Біблію дзесяцігоддзямі праграмна і заўзята апаганьвалі і асмейвалі, варта прыгадаць прынамсі некалькі ейных перавагаў з навуковага пункту гледжання. Геолагі, напрыклад, гавораць, што ўнутры зямнога шара знаходзіцца распаленая лава. Шматпакутны Іоў ведаў аб гэтым раней і сказаў: „Зямля, на якой вырастае збожжа, унутры зрыта быццам агнём". У даўнія часы Іова і Майсея абсалютна не гаварылася, што, напрыклад, Зямля стаіць на вялізнай чарапасе. Іоў выказаў сапраўдны стан адной фразай: „Бог павесіў зямлю на нічым" (26 раздзел). Аб тым, што зямля круглая, вучоныя даведаліся толькі на пачатку XVI стагоддзя. Магелан і Калумб пацвердзілі гэта ў выніку сваіх падарожжаў. Адкуль аднак ведаў пра гэтае прарок Ісая, які 700 гадоў да нараджэння Хрыста сказаў: „Бог ёсць Тым, хто засядае над зямным шарам" (40 раздзел). Вучоныя крайне заінтрыгаваныя фактам, што ў сэнсе колькасці зорак поўнач амаль пустая. Паўтары тысячы гадоў да нашай эры, калі не існавалі тэлескопы, у Біблії было сказана: „Бог распасцёр поўнач над пустатою" (25 раздзел).

Вось таму, незалежна ад асабістага стаўлення, Біблію трэба калі ўжо не разважаць дык прынамсі прачытаць і ведаць. Хрыстос неаднойчы заклікаў: „даследавайце пісанні". Апостал Павел пераконваў свайго вучня Цімафея кажучы: „Усё Пісанне натхнёнае Богам і карыснае дзеля навукі, дзеля дакору, дзеля папраўлення, дзеля ўзгадавання ў праведнасці" (2 Цім. 3, 16). Калі аднойчы першасвятары і фарысеі падбухторылі слугаў, каб злавіць Хрыста, тыя, падышоўшы да натоўпу і паслухаўшы ягоную пропаведзь, вярнуліся засаромленыя, кажучы: „Ніколі чалавек не гаварыў так, як гэты чалавек". Хапіла аб'ектыўна паслухаць, каб пераканацца ў сапраўднай вартасці той навукі. Вучоныя могуць сабе спрачацца наконт праўдзівасці біблейскіх ісцін, падзеяў і прароцтваў, але сусветная гісторыя даўно ўжо гэтае пытанне вырашыла. Мабыць, галоўнае тое, што зерне Святога Пісання, падаючы на ніву чалавечых сэрцаў, прынясло незлічонаму мноству грэшнікаў збаўленне ад жудасных заганаў, прыносіла іхным душам супакой і радасць, засмучаным — суцяшэнне, тым хто ў роспачы — новую надзею, тым хто пры смерці — мужнасць і перспектыву вечнасці. Свецкая і царкоўная гісторыя, сям'я і грамадства, народы і паасобныя людзі сведчаць, што Святое Пісанне мае нязменную аздараўленчую і адраджальную моц ды валодае незлічонымі духоўнымі каштоўнасцямі і благаславенствамі для тых, хто вырашыў ісці Хрыстовым шляхам.

У свеце няўстойлівых каштоўнасцей ды ідэй пацяшальнае тое, што існуе універсальная каштоўнасць, якая здала ўсемагчымыя экзамены і яна не залежыць ад чалавека ні ад часу. Згодна словам Гамалііла: „Калі гэта чалавечая выдумка — сама загіне, а калі ад Бога — нішто яе не знішчыць", працэс сяўбы Слова Божага працягваецца і шчаслівыя тыя, што „слухаюць Слова Божае і выпаўняюць яго" (Лук., 8, 21).

**а. Канстанцін Бандарук**



 

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ (8)

### Асаблівасці тапаніміі

**Каралёвае Стойла** — культурная назва (*стойла* — месца пераважна агароджанае, дзе ў поўдзень або ноччу стаіць быдла). Першы член назвы *Каралёвае* — гэта прыналежная назва ад *кароль*. Народная назва *Каралёўшчына* — паказвае на тое, што *гэтыя землі належалі каралю*. Першапачаткова так называлася ўрочышча, пасля — пасяленне і лясніцтва. У 1910 годзе тут пражывала семдзесят чалавек, у 1926 годзе — 62 і ў 1930 — 72. Зараз Каралёвае Стойла гэта салэцкая вёска, якая налічвае 51 асобу.

**Коматаўцы** — патранімічная назва ад асабовай *Комата*. У рукапісных дакументах значыцца з 1784 года. Вёска ўзнікла ў XVI стагоддзі. У Коматаўцах і ў суседніх Баброўніках (яны размешчаны над Свіслаччу) пражывалі баброўнікі — наглядчыкі за бабрамі, якія, вадзіліся тут у значнай колькасці.

Цяпер у Коматаўцах пражывае 58 чалавек, у тым ліку 35 асоб, якім больш за 60 год. Найстарэйшай жыхаркай сяла з'яўляецца Агата Папяльніцкая (нар. 15.I.1903 года).

**Лужаны** — этнаграфічная назва, першапачаткова абазначала людзей, пражываючых пры *лузе*. Вёска ўзнікла ў XVI стагоддзі. У 1679 годзе кароль Ян III Сабескі даў Лужаны ва ўладанне татарскаму палкоўніку Самуілу Мурзе Кшачоўскаму і яго салдатам. Цяпер сяло налічвае 68 жыхароў, з таго ліку адна трэць гэта людзі пажылыя.

**Мастаўляны** — этнаграфічная назва, першапачаткова абазначала людзей пражываючых пры *мосце* або ў мясцовасці *Мост*. Даўнейшая назва гэтай вёскі — *Каралёвы Мост*. Пацвярджаюць гэта захаваныя запісы ў рукапісных дакументах ад 1634, 1775 і 1784 гадоў. Цяпер тут пражывае 67 чалавек, у тым ліку 39 у пенсіённым узросце. Найстарэйшы з іх — Шымон Сэвэрын (1902 года нараджэння).

У Мастаўлянах ёсць царква святога апостала Іаана Багаслова з 1593 года. Апошні храм — з 1862 года, разбудаваны ў 1908—1909 гадах. Пасля другой сусветнай вайны дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і Рэспублікай Беларусь аддзяліла з Мастаўлянскага прыхода Цецяроўку з навакольнымі вёскамі. На могільніку захавалася капліцка з канца XVIII стагоддзя. Захаваліся таксама метрыкальныя кнігі ад 1878 года. Пачынаючы з 1964 года кожны год тут памірае значна, але то значна больш людзей, чымсьці нараджаецца дзяцей. Напрыклад, ад 1980 да 1991 года нарадзілася ўсяго 45 дзяцей, а за гэты час памерла 238 чалавек.

**Меляшкі** — радавая назва ад асабовай *Мелешка*. У рукапісных дакументах зафіксавана *Меляшкі* і *Мэляшкі* (запісы ад 1784 года), а таксама *Ваўпянскія Меляшкі* (з рукапісаў 1558 і 1567 гадоў). Захаваўся і такі запіс: „...маёмасць *Мелешкі* Міхайлавіча" ў дакуменце ад 1505 года. У 1827 годзе маёнтак Меляшкі купіў у Радзівіла маршал Гувольт. У канцы XIX стагоддзя яго ўладальнікам была Зофія Саковіч.

У 1875 годзе Меляшкі належалі да гарадоцкай парафіі. У 1884 годзе тут пачынае дзейнічаць школа граматы, у якой навучалася 28 юнакоў. Праз тры гады ў школу хадзіла 44 юнакоў і дзве дзяўчынкі (тады лічылі, што дзяўчатам ды ўвогуле жанчынам навука непатрэбная). Урокі адбываліся ў прыватных памяшканнях. У 1905 годзе ў Меляшках пражывала 743 асобы і ў маёнтку Меляшкі — 114. Пяць гадоў пазней вёска Меляшкі налічвала 549 жыхароў і маёнтак — 94. У міжваенны перыяд у вёсцы пражывалі 394 асобы і ў маёнтку — восемдзесят, а ў 1938 годзе ў вёсцы Меляшкі налічвалася 361 асоба ды на каленіі — 91. Цяпер тут пражываюць усяго 134 чалавекі, а сярод іх 65 пенсіянераў.

**Меляшкі-Каленія** — радавая назва, другі член назвы — *Каленія* — назва культурная (каленія — новае пасяленне за вёскай ці мястэчкам або горадам). Народная назва гэтай вёскі *Сэты*. За вёскай быў панскі двор, яшчэ перад 1784 годам. Хутар узнік пасля парцэляцыі маёнтка. Апошнім часам тут каля 35 жылых дамоў.

Народная назва гэтага пасялення *Сэты* выводзіцца з дыялектнай формы ўказальнага займенніка *сеты* ў значэнні *гэты*. Першымі жыхарамі пасёлка былі, верагодна, людзі, якія прыбылі сюды з-пад Брэста і замест займенніка *гэты* гаварылі *сеты*. Пакуль што няма дастатковых дадзеных, каб катэгарычна можна было выказаць за такую ці іншую этымалогію назвы *Сэты*.

**Навасёлкі** — культурная назва, абазначала нованаселены пункт ды ўвогуле пасяленне каля ўжо існуючай вёскі. Значацца яны ў рукапісным дакуменце ад 1784 года. Сяло ўзнікла ў канцы XVII стагоддзя. У міжваенны перыяд у Навасёлках пражывала 211 чалавек. Цяпер сяло налічвае пяцьдзесят чалавек. Найстарэйшаму жыхару гэтай вёскі — Яну Зрайкоўскаму пайшоў 101 год! 34 тутэйшым жыхарам больш за 60 гадоў. Наймалодшаму жыхару — дванаццаць. Малалетак няма.

**Нарэйкі** — радавая назва ад асабовай *Нарэйка, Нарэйкіс* (гэта прозвішча часта сустракаецца і зараз на Літве і ў Рэспубліцы Беларусь). Назва пасялення выступае ў актах ад 1563 года.

Сёння Нарэйкі — невялічкая вёсачка, з усяго 24 жыхарамі, а з іх ажно васемнаццаць чалавек мае па 60 і больш гадоў. Напрыклад, найстарэйшы з іх Аляксандр Пацкевіч пачаў 91 год жыцця.

Захаваўся тут да нашых дзён — як помнік старадаўнасці — галандскі вятрак з дваццатых гадоў нашага стагоддзя.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

# Каму гарэлка салодкая...

Маргарыта выводзілася з мнагадзетнай сям'і. Была найстарэйшай з васьмёркі Агацінага і Маркавага патомства. Вучылася ў школе, як кажуць, „так сабе". Закончыла прафесіянальную школу і пайшла працаваць у цырульню. Дадому прыязджала ў нядзелі і святы, заўсёды з падарункамі. Бацькі цешыліся, што жывецца ёй нядрэнна.

Аднойчы Рыта пазнаёмілася з Адамам. Хлопец быў нябрыдкі, і не заглядаў у кілішак, як шмат хто з маладых. Паходзіў з багатай і талерантнай сям'і. Ягоныя бацькі не пратэставалі, калі іх адзіны сын прывёў Маргарыту дадому і сказаў, што хоча ажаніцца з ёю, праваслаўнай дзяўчынай. Меў усё — з думкай аб ім бацькі збудавалі двухпавярховы дом, купілі аўтамабіль. Вяселле зрабілі ў гэтым новым доме.

Усе сваякі і суседзі зайздросцілі Рыце такога прыгожага і прыстойнага мужа.

Маладыя жылі ў згодзе. Нарадзілася ім двое дзяцей. Свякруха пільнавала малых, а Маргарыта хадзіла на працу.

Было ўсё добра, пакуль маладыя не пайшлі на вяселле дваюраднай сястры Адама. Каля Рыты сеў разводнік Яцак, душа кампаніі. З яго анекдотаў рагаталі ўсе. Два разы затанцаваў з Рытай. Вельмі ж ёй спадабаўся. Пад канец гасціны дамовіліся з ім на сустрэчу ў парку. Сустрэчы былі частыя, але добра трымалі іх у таямніцы.

Муж стаў Маргарыце зусім абыякавым. Аднойчы запрапанавала каханку, што хоча быць з ім назаўсёды. Яцак не быў супраць. Маргарыта забрала сваіх сыноў, сказала Адаму, што яго пакідае дзеля кахання свайго жыцця.

Адам і яго бацькі былі ў шоку. Мужчына плакаў як дзіця.

Хутка падалі на развод. Адам яго не хацеў, але Рыцін адвакат пераканаў яго, што ўпірацца пры сужонстве няма сэнсу, бо і так жонка да яго не вернецца. Пасля чацвёртай разборкі справы Маргарыта стала вольнай.

Хутка Маргарыта і Яцак пабраліся шлюбам. Жылі добра, пакуль хапала грошай з яе ашчаднай кніжкі, а пасля пайшло! Разлічваў жонку з кожнага грошыка. Прывыкла жыць багата, а тут не магла купіць сабе новай сукенкі ці ботаў без дазволу мужа. Дзяцей, вядома, айчым трактаваў як чужых. Хлопчыкі не вытрымалі, уцяклі да бацькі. Адам прыняў іх, а маці не падаў на аліменты.

Маргарыта толькі тады, як страціла сыноў, сказала Яцку, што разумее, чаму пакінула яго першая жонка.

— Каб я вас не трымаў у шыху, то мне на галаву пазалазілі б! — усміхнуўся пагардліва Яцак. — Жонка павінна з такім пасагам прыйсці, каб ёй хапіла на ўсё жыццё. Я дармаеда не думаю трымаць! А цябе хапіла мне толькі на год.

Маргарыта пачала пацішу выпіваць, каб забыць сваё гора. І ўцягнулася ў алкагалізм. Звольнілі яе з працы, Яцак прагнаў з дому. І бацькі яе не хацелі. Маргарыта сышлася з адным кампаньёнам ад пляшкі. Гарэлка для іх цяпер заслабая і засалодкая. Мацнейшая — сінюха і іншыя „вынаходствы". Не раз непрытомных забірае іх скорая дапамога з іхняй разваленай хацінкі на ўскраіне горада.

— Як вы можаце такое свінства піць? — пытаецца ў іх лекар. — Ці яно лепшае для вас ад здароўя?

— Гэта някепскі напой, — адказала Рыта. — Толькі яно так ёсць у жыцці, каму гарэлка горкая, а каму — салодкая.

А ў хаце ў іх няма нават сала ды хлеба. Каміль і Антось, сыны Маргарыты, не хочуць нават слухаць пра матку. У іх ёсць толькі тата ды дзядкі з бабкамі. А новай мамы ім не трэба — тата баіцца, што знойдзе такую ж, як першая.

**Аўрора**

# Чалавечая і сабачая любоў

Часта чуем, што недзе нейкая злачынная маці пазбавіла жыцця сваё нованароджанае дзіця, кідаючы яго ў сметнік, лес ці рэчку, а нават найстрашней: закопваючы жывым у зямельку. Часта робяць гэта незамужнія дзяўчаты, каб быць „чыстымі". Здараецца гэта і замужнім. Забойствы гэтыя чыняць жанчыны і з „добрых" дамоў, і з дрэнных, і адукаваныя, і п'янюжкі, і ўсякі іншы зброд, у якога сэрца пасяліўся д'ябал. Часта такіх людзей параўноўваем да жывёл, аднак параўнаннем гэтым крыўдзім мы жывёліну. Бо звярыныя самкі любяць сваіх дзетак так, што ніколі не робяць таго, да чаго здольныя людзі: не забіваюць нованароджаных. Многа жыве ў нашым наваколлі бяздомных сабак, і часам такая сука народзіць шчанят. Як яна тады імі апякуецца: сама як цень, адны рэбры і скура, аднак яе дзеткі дагледжаныя, кругленькія і тлусценькія. Яна, хаця сама галодная, перш за ўсё намагаецца накарміць дзетак. І хто ў каго павінен тут браць прыклад: ці жывёлы ў нас, ці мы ў іх?

**Мікалай Панфілюк**

# ЛЯЦЯЦЬ ЖУРАВЫ

Пералом верасня і кастрычніка быў часам, калі назіралася найбольш жураво ў на Варміі і Мазурах. Да „радзімых" журак далучыліся іншыя, што гнездавалі на поўначы Еўропы і ў Беларусі. Паляцелі разам на зімоўку ў Іспанію, Партугалію ці Паўночную Афрыку.

У канцы ліпеня, калі маладыя журавы ўмеюць ужо лятаць, вядучыя да гэтай пары скрытнае жыццё журавы вылятаюць у поле. Найахвотней жыруюць на пожнях. Памятаю, тады, калі жыў я ў Відаве, бачыў, як журавы сядалі на пакошанае збожжа. Усё нешта лавілі ды каўталі, то мышку-палёўку, то жабку. Вечарам усе жураўліныя сем'і вярталіся на відаўскія балоты. Падвосень ўсе журавы начуюць у вялікіх групах. На працягу верасня суполкі начлежнікаў усё пабольшваюцца. На найбольшых „спальнях" адпачываюць і па 3 тысячы жураво ў. Рэкордам у Польшчы быў начлег 5 тысяч птушак адначасова. Вечаровае злятанне на начлег жураво ў гэта цудоўнае відовішча. Першыя птушкі прылятаюць 2—3 гадзіны да заходу сонца. Кружацца, аглядаюць месца, ці няма небяспекі. Калі прыземляцца, бяруцца за свой туалет: чысцяць і парадкуюць пёры. Вялікі рух пачынаецца пры захадзе сонца. Здалёк чуваць лятучых жураво ў, што перамаўляюцца ў паветры паміж сабою, ляцяць з усіх напрамкаў. Вітаюць іх журавы, якія ўжо адпачываюць на зямлі. Адказваюць ім галасы дарослых і свіргатанне малалеткаў, шум вялікіх крылаў. Такая музыка — цудоўная! Раптам некалькі соцень жураво ў сціхае...

Начлежныя месцы жураво ў на Варміі і Мазурах ёсць пад строгай аховай. Маюць яны не толькі рэгіянальнае, але і еўрапейскае значэнне. Дзякуючы працы арнітолагаў большасць гэтых месцаў зінвентарызавана. Пяць такіх стаянак ёсць экалагічнымі запаведнікамі.

На нашыя відаўскія балоты журавы не прылятаюць часта. Меліярацыя давяла да такога стану. А памятаю, як калісьці ў ямках на балоце можна было рукамі лавіць рыбу...

**Андрэй Гаўрылюк**

# „Дахтарыца"

Яна жыве ў мястэчку як царыца. Лечыць і пана, і прасталюдзіна. Каму хоча даць першую групу, усё залежыць не ад стану здароўя хворага, а ад яе адное. Мы тут вельмі добра ведаем у гміне гэтыя справы. Адной жанчыне з нашага мястэчка, што ў яе не было адной рукі, а была пасля трох інсультаў (па-простаму „вылеваў") умела адняць першую інвалідскую групу. Цяпер гэтая цётка ўжо не жыве, не трэба ёй нічога, бо пры чацвёртым інсульце памерла. Усе мы ўспамінаем Ніну, ніколі не наракала, добрая маці і гаспадыня, усё змагла зрабіць адной рукой. Я была ў яе доме не раз — узорны парадак, усё дагледжана. А недай такое жыццё нам, здаравейшым! Па вёсках колькі людзей нямоглых, усё здароўе гаспадарка высесць, чалавек не глядзіць на сваю працу, не лічыць гадзін. Да лекара ідзе ўжо ў апошнюю хвіліну. Калі б разглядаць усе хваробы, якіх чалавек у сябе нават і не падазравае, то лёг бы і не ўстаў. А колькі ж у нас людзей пасля цяжкіх аперацыяў, практычна не здольных ужо працаваць, але пані доктар падыходзіць да іхняга здароўя вельмі дзіўна, на мой погляд. Людзі адклікаюцца ад яе рашэнняў, ездзяць па камісіях, і так дабіваюцца свайго, але ў каго ёсць на гэта сіла і час? А здаровыя, што рагочуць, як коні, п'юць, бывае, маюць рэнту. Маем на гэта прыклады. Дзе тут справядлівасць, сумленне і этыка лекара? Не ведаю, чаго яна навучылася з таго, чаму яе вучылі ў школе. Людзі адчуваюць да нашай „дахторкі" крыўду. Такіх лекараў нам трэба, каб ведалі і дапамагалі, лячылі і разумелі, а не адчувалі сябе як на нейкай ссылцы ў пушчанскіх вёсках.

**ІДА**

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 8. „Любоў"-вяшчанне

— Учора зрабіў я *пятнаццатку* за чатырнаццаць з паловай мінуты, — пахваліўся супрацоўніку Цім Чарапаха, кіраўнік філіяла вяшчання „Любоў". Ён меў на ўвазе пятнаццаціхвілінную перадачу, накіраваную спецыяльна да жыхароў Зоны.

— Шкада, — цягнуў ён сваю думку, — што маем толькі пятнаццаць мінут. Падчас апошняга выезду ў Зону набраў я столькі матэрыялу, што мог бы два месяцы сам вяшчаць. Усе запісы падвойныя, па-беларуску і любагорску. З тых апошніх скруну некалькі *гукаў* для самога Любагорска і зараблю больш на іх, цімсьці на зонаўскіх. Эх, тыя пятнаццаткі! Яны моцна абмяжоўваюць маю зарплату.

Затаранболіў тэлефон. Юры Бабко, бо ён быў гэты супрацоўнік, падарваўся з-за мантажнага стала, нібы хто яму швайкай сунуў у бок.

— Да цябе Цаца Галасок, — сказаў і перадаў трубку Ціму Чарапасе.

— Добры дзень, спадарыня... — пры гэтых словах ён пакланіўся, быццам асоба па той бок дроту бачыла яго ды пільна сачыла за паводзінамі.

— Разумею, спадарыня... — яшчэ раз перагнуўся.

— Разумеецца... зараз прыязджаю... усёга вам добрага. — Ледзь не грымнуў галавою аб столік, на якім стаяў тэлефон. Адклаў трубку і звярнуўся да Бабко: — Юрка, я мушу ехаць. Галасок мае да мяне пільную справу.

Цім Чарапаха засунуў у торбу свой магнітафон, метадычна раскруціў мікрафоны, паклаў іх у футаральчык, а яго таксама засунуў у торбу. І яшчэ стэрэафанічны, для лепшага эфекту, прыгадалася.

— Калі б штось, Юрка, заступаеш мяне, — кінуў на развітанне.

Юры Бабко мэнчыўся пры мантажы рэпартажу. Што ж, ён не быў Чарапаха, мантаж так званай пятнаццаткі займаў яму некалькі гадзін, а калі тэма не падыходзіла, то цацкаўся і два дні. Перадачы ў яго атрымліваліся ўсялякімі, але Цім Чарапаха крытыкаваў яго за кожную.

— Навошта табе ёсць гэтая дынаміка і музычныя перабоі ў перадачы? Я раблю размову з чалавекам на паўгадзіны, разрэзваю яе на тры роўныя кавалкі і маю з гэтага тры чарговыя перадачы. Табе трэба таксама. Найлепш з замбарцамі, бо яны ўмеюць доўга гаварыць. Трэба рабіць адразу па-беларуску і па-любагорску. Заашчаджваецца час, а грошы тыя самыя.

Бабко ківаў яму галавою, але сваё ведаў. „Х" як Чарапаха, думаў у такія моманты. Аднаго разу нават сказаў гэта ўголас аднаму з калег, але той паўтарыў іншаму. Дайшло да Чарапахі і Бабко два месяцы ледзь мог назбіраць на цыгарэты. У „Любові" чуць не ўсе былі даносчыкі. Ай-я-яй, а дзе будуць запісы з ансамблем Цацы Галасок. Бабко стаў нервова перакладаць каробкі з плёнкамі. Шукаў там і сям. Наканец набраў нумар Асацыяцыі ды запытаў пра Чарапаху. Адазвалася сакратарка.

— Не, няма яго ў нас... не кажыце мне такога... спадарыня Галасок мае сёння выхадны дзень. Да пабачання.

Вось табе і на! Ізноў будзе Майкл Джэксан замест Цацы Галасок. Слухачы гэтага не даруюць...

* * *

Цім Чарапаха моцна ўсхваляваўся званком. У машыне адчуў на ўсім целе дрыжыкі. Ледзь не ўехаў на чырвонае святло. Уключыў дыджыталь-прыёмнік, каб паслухаць сябе.

*„Любоў"-вяшчанне,*
*„Любоў"-сакратанне,*
*Твая радасць, тваё каханне...*

Выгадна ўладкаваўся ў фатэлі. Вось ёсць жыццё. Хаця і даваўся яму вяшчаць для Зоны, але ён сваё ведаў і падкрэсліваў пры любой нагодзе — ён ёсць перад усім работнік „Любові", а калі ідзе пра пачуццё так званага абавязку і службу для Зоны — няяк можна з гэтым жыць. І то выгадна. Чарапаха гэта даказаў. Найважнейшае, каб не вязацца з зонаўскімі дзеячамі. Яны толькі крытыкаваць умеюць. Але вось, калі пазнаёміўся з Цацай Галасок, зразумеў, што можна спалучыць абавязак з прыемным. Яна ведала, які патрэбны падыход да журналіста. Заўсёды чакала з гарбатай або *кофе*, не нервавалася, калі спазняўся. Не тое, што Арыстоцель Ваньхо. „Вы не шануеце мяне і майго часу", — лаяў яго кожны раз...

Пад'ехаў пад дом. Зачыняючы машыну, праверыў два разы. Тут аднойчы ўжо свіснулі, прыгадалася яму. Заступіў у дзверы і чакаў якую хвілю. Целам страсянула другая хваля дрыжыкаў. Цаца прывітала яго ў адных скураных майтках і такім жа бюстгальтары. У руках трымала рамення біч...

# ЛЕГЕНДЫ З-ПАД ГАРАДКА

* * *

Вёска Каралёвы Мост — папярэдняя назва Янаполь — была заснавана каля 1674 года. Размяшчацца яна над рэчкай Плоскай. Навакольныя ўзгоркі, пароcлыя густым, старым лесам, дасягаюць вышыні ў 200 і больш метраў над узроўнем мора. Гара Святой Анны мае 209 метраў н.у.м.

Паводле легенды, падчас падарожжа ў Ваўкавыск затрымаўся тут кароль Зыгмунт Аўгуст; тады нібы на працягу аднэй ночы пабудавалі мост. У 1812 годзе гэтай дарогаю ішлі войскі Напалеона, неаднакратна ўступаючы ў бой.

* * *

У Гарадку, на Замкавай гары, дзе цяпер расце лес і дзе сто гадоў таму назад стаяў вятрак, у XV стагоддзі ўзвышаўся замак графа Хадкевіча. Легенда падае, што ў гэтым замку закончыў сваё доўгае жыццё польскі кароль Уладзіслаў Ягайла. Легенда магла ўзнікнуць таму, што Гарадок знаходзіўся на важным шляху з Каралеўства Польскага ў Вялікае княства Літоўскае і Уладзіслаў Ягайла ў час сваіх частых паездак з адной краіны ў другую мог спыніцца на адпачынак у замку Хадкевічаў.

* * *

У Імшары ёсць возера Горбач. Цяпер дайсці да возера можна цераз хмызнякі. Калісьці быў тут лес і навакольныя абшары былі недаступнаю дрыгвою. Здарылася, што хтосьці ноччу, зблытаўшыся з дарогі, трапляў у непраходны лясны гушчар. Тады чынілася самае страшнае: нейкая постаць хадзіла перад чалавекам і вызначала яму дарогу. Той, хто ішоў следам гэтага прывіда, трапляў у нетры, адкуль цяжка было выбрацца. Бывала і так, што калі хто трапіць сюды адвячоркам, то папаходзіць да самага ранку, пакуль пазнае знаёмае месца.

Старэйшыя гавораць, што даўнымдаўно жылі тут чэрці і сюды нікому нельга было заходзіць. Калі чалавек з'явіўся ў іхнім уладанні, былі яны надта злыя і хацелі яму па-свойму дакучыць ды пажартаваць над ім.

Зараз усе старыя і маладыя згодна гавораць, што чарцей тут няма. Яны адсюль уцяклі невядома куды, і ніхто іх цяпер не бачыць.

*Сабраў і апрацаваў*
**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што ў маёй кватэры за сталом сядзіць мая мамаябожчыца. Я гляджу і захапляюся яе прыгажосцю. Такая яна і пры жыцці не была. Сама поўная, прыгожая, колеры на твары. Апранута з вялікім густам: белая блузачка з доўгім рукавом, а да гэтага нагавіцы бэжавага колеру. Ну, такое ўсё гэта прыгожае! Сядзім за сталом і мама гаворыць, што нешта крыху парваліся нагавіцы. Просіць, каб я адрамантавала іх. Я гляджу, а там усё ў парадку. Няма нічога парванага. Я адвярнулася і што бачу? Страшэнны балаган! Усё параскідана, павыкіданае з шафаў. Балаган гэты зрабілі нейкія дзеці. Але іх я не бачыла, а толькі ведаю пра гэта. Што можа абазначаць гэты сон, адкажы, Астроне!

**Марыся**

Марыся! Не захапляйся занадта прыгажосцю, якая табе прыснілася. Хоць бы і была невядома якая прыгожая, маці ў сне (нябожчыца ці жывая) нясе з сабой клопаты. Табе здаецца, што калі маці была апранута з вялікім густам, дык і спадзявацца можна толькі добрага. А штаны якраз абазначаюць нейкі ўбытак, смутак, крыўду, тым больш, што нагавіцы нібыта парваліся. І гэта мяне ў тваім сне найбольш непакоіць. Будзе гэта звязана з нейкай пераменай у тваім жыцці. Я ж ужо няраз пісаў, што балаган у хаце абазначае перамену хаты, кватэры, працы ці нейкай іншай жыццёвай важнай справы.

**АСТРОН**

### З гараскопа друідаў

**ГРАБ** *(4 — 13 чэрвеня, 2 — 11 снежня).* Граб патрабавальны да цяпла, і Беларусь — самая ўсходняя мяжа яго распаўсюджання. Расце звычайна ў змешаных лясах, яго рабрысты ствол узнімаецца на вышыню 10—20 метраў. Дрэва лёгка пераносіць цень, не патрабуе лепшай глебы. Драўніна граба цяжкая, цвёрдая, выкарыстоўваецца для вырабу музычных інструментаў (раней — нават дэталі колаў), вінтоў, а з арэшкаў выціскаюць алей на пакост. Серабрыста-шэрая кара граба з цягам часу набывае зялёнае адценне.

Чалавек-граб змоладу бывае вельмі прыгожым, але гады нішчаць прыгажосць, а ненавіта яна найболей патрэбна грабу. Яго ўвагу звычайна прыцягвае форма, значна больш, чым змест. Такія людзі любяць дысцыпліну, паслухмяныя, ідэйныя, калі іх адзначаюць, мараць пра высокі гонар, сумуюць без увагі да іх асобы. Грабу найболей адпавядае падпарадкаванне праверанвм правілам, таму ён не імкнецца браць ініцыятыву ў свае рукі, баючыся памыліцца. Людзі, што нарадзіліся пад знакам граба, маюць развітае пачуццё абавязку, не любяць адступаць ад прынятых правілаў, неахвотна сходзяць з простай, даўно праверанай дарогі. У каханні яны выказваюць вялікую адказнасць, трактуюць яго як справу сур'ёзную, важную. І калі грабу трэба выбіраць паміж каханнем і абавязкам, ён напоўна аддасць перавагу другому.

*(працяг у наступным нумары)*

# З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33—36, 38—43 н-рах)*

Вось ужо апошняя нізка прыпевак, якія ўспомніліся Надзеі Руско з Белавежы.

**39**

Ты не поп, ты не дзяк,
не цалуй мяне так.
Ніхай мане пацалуе
удалы казак.

**40**

Ой, пайду я на гару,
накапаю румяну.
Хоць сама я не хароша,
харошага прыманю.

**41**

Надаело мне кудзелю прасці
і нітачкі матаці.
Мой Янко служыт в салдатах,
трэба пісьмо напісаці.

**42**

Кіну кужэль на паліцу;
сама пайду на уліцу.
Ніхай мышы кужэль рубят,
ніхяй мане хлопцы любят.

**43**

Падуў вецер з Украіны,
дзесь пакінуў я дзевчыну.
Падуў вецер із паўночы,
дзесь пакінуў чорны вочы.
То я тую далекую
людзям падарую,
а я сваю блізкую
пэўне ачарую.

**44**

Ой, сем да па сем,
гарэлачкі прынесем.
І чырвоніенькае, і зілёнінькае.
Ой, ты мілая мая,
харошая мая,
парагні румачку
да самого дна.

**45**

Ой, мілая мая
стала чупурыцца.
І ні можна да яе
навэт прытуліцца.

**46**

То сарока, то варона,
то чорная галка.
То Сіманко, то Арынка,
то хароша парка.

Запісаў **ПЁТР БАЙКО**

# ВІРАВАНКА




1. дубінка з патаўшчэннем, 2. контур аб'екта, 3. турма, 4. надвор'е, 5. збудаванне для вырошчвання ранняй агародніны, 6. горад у Маньчжурыі, 7. яркая звязда ў сузор'і Валапаса, 8. расліна з рознакаляровым цветам, 9. уласнік банка, 10. акцэнт, 11. адна з мышцаў пляча, 12. судовы працэс.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 37 н-ра:**

**Гарызантальна:** Сярожа, кавяла, барана, рака, круг, прапаршчык, прыз, Сава, какаду, актава, Шанхай.

**Вертыкальна.** сякера, жаба, Кана, ланцуг, разнарадка, капрыз, крыкса, прысак, Валдай, кава, душа.


**Ніва**

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

## Прыкметы

Толькі правую далонь
Я пачухаў —
Друг:
— Здароў!

... Засвярбеў язык сказаць:
— Трэ бутэлечку б узяць.

Толькі друг мне:
— Вось прынёс... —
Нездарма свярбеў мне нос.

Ды кажу:
— Не буду піць —
Вока левае свярбіць...

**Станіслаў Валодзька**

## СЕНТЭНЦЫІ

Перапуд і асілка зваліць.

* * *

Сапраўдны плач не ў вачах,
а ў душы.

* * *

Песімізм — душы чорныя акуляры.

* * *

Цеплыня ўсмешкі
разганяе холад суму.

* * *

Зайздрасць адкормліваецца
ў хляве зла.

**Барыс Руско**







*— Дык у чым жа ваша праблема?* („Ньюс")

## СМЕХ У САНАТОРЫІ...

— Якая розніца паміж разумным і дурным?

— Разумны толькі думае, што не мае часу гаварыць, а дурны толькі гаворыць, што не мае часу думаць.

* * *

Уласнік дома папракае кватаранта:

— Калі здымаў вам гэтыя два пакоі, дык выразна вам сказаў, што не люблю музыкі. А цяпер ваша жонка цэлымі днямі грае на фартэпіяна.

— А вы гэта называеце музыкаю?!

* * *

— Ці чуў ты, што ўрад вырашыў справы зарплат перадаць у веданне міністэрства культуры і мастацтва?

— І вельмі слушна! Бо пражыць за цяперашнюю зарплату гэта мастацтва і трэба культуры, каб не лаяцца, калі атрымоўваеш яе ў касе.

* * *

У краму з гадзіннікамі ўваходзіць кліент:

— Хачу купіць 16 гадзіннікаў для нашага бюро.

— Насценных ці будзільнікаў?

* * *

— Чаму ты пакінула папярэдняе месца працы? — пытае пані новую гаспадыньку.

— А ці я вас пытаю, чаму адышла папярэдняя гаспадынька?

* * *

На базары:

— Вельмі ж худыя вашы куранняты: выглядаюць так, быццам бы паздыхалі з голаду.

— Ды, не. Паспеў я іх парэзаць яшчэ перад іхняй смерцю.

* * *

Бабуля да ўнучка:

— Пётрусь, ці ведаеш, што бусел прынёс табе брацік? Хочаш пабачыць?

— Хачу пабачыць таго бусла ў лютым.

### ... І Ў ШКОЛЕ

Настаўніца прыйшла на ўрок у блузцы з вялікім дэкальтэ і ланцужком з самалёцікам. Малы Пеця з першай парты ўтаропіў вочы ў яе аздобу.

— Што, Пеценька, падабаецца табе мой самалёцік?

— Не, не гэты, а два бамбардзіроўшчыкі...

* * *

Дзеці хваляцца ў класе:

— У нас дома ў кожнага ёсць веласіпед!

— А ў нас у хаце аж чатыры тэлевізары!

— А ў нас дома васьмёра дзяцей, а ў кожнага — свой тата!

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

## ДАМАВІНА

Цяжка ўрачам-наркалагам змагацца з вядомай хваробай. Якіх толькі мудрагелістых метадаў ды лекаў не ўжываюць — не хочуць пацыенты разлучацца з горкай. Вось і мой знаёмы чатыры разы ў бальніцы на „адыванкні" сядзеў — ніяк не вылечыўся, наадварот, перайшоў на шампунь, ласьён „Агурковы", трайны адэкалон, а на закусь — зубную пасту. І раптам здарылася нешта з ім — як рукой зняло. Не п'е. Нават глядзець на яе не можа. То быў такі заядлы падплотнік, а тут вылюднеў, апранацца стаў. Быццам падмянілі чалавека. І без ніякіх там таблетак-метадаў. Завязаў — і ўсё.

Неяк сустрэў яго на вуліцы.

— Давай зойдзем, — папрасіў Антось да сябе.

Тут толькі я ўбачыў, што Антосева шавялюра скрозь серабрыцца — ссівеў, небарака. На маё здзіўленне ў Антосевай кватэры я не ўбачыў ні зашмальцаванай канапы, ні непрыбранага стала, ці цэлага бурта бутэлек і „флакуш" у кутку. У пакойчыках было чысценька, канапа акуратна заслана капай, а на стале стаяў фотаздымак жонкі-нябожчыцы і ляжала віншавальная тэлеграма з пяцідзесяцігоддзем ад дачкі Фросі. Я з нецярпеннем чакаў, калі ж Антось пачне расказваць, што ж з ім здарылася, чаму ён завязаў... Антось зразумеў мяне, пачаў распавядаць...

— Уяві сабе, браток, што можа адчуць чалавек, калі раптам прачнецца ў суцэльным цемрыве і страшэннай цішыні? І мне жудасна зрабілася, калі прачнуўся чорт ведае дзе пасля чарговага ўпівання. Хацеў усхапіцца — ды лобам аб нейкія дошкі як грукнуся! Зашнарыў рукамі — а матачка ты мая! Дошкі наўкола — у дамавіне. Пакуль п'яны быў ды непрытомны, палічылі за мёртвага ды закапалі!

— Дык што, сапраўды закопвалі? — не вытрымаў я ад нецярплівасці.

— Пачакай... Ад страху ў мяне зуб на зуб не трапляе, грукаю ў дошкі, спрабую голас падаць, а голас і адняўся, крыкнуць не магу. І што крычаць, калі зверху ці не два метры сырой зямлі, думаю. А жыць так хочацца, як успомніў, якое жыццё я вёў, як не жыў, а п'янстваваў — ледзь ваўком не завыў. І што ты думаеш, чую — галасы. Крыкнуў штомоцы: „Ратуйце, людзі, я жывы!"

Антось крыху памаўчаў.

— І што ты думаеш, дружа. Падыходзяць да мяне нейкія людзі — чую крокі. Пераварочваюць маю дамавіну — і ўбачыў свет! Стаяць перада мною два рыбакі з вудамі, а побач лодка перакуленая. Гэта ж трэба! Так назюзюкаўся, што заблукаў на бераг Алешніцы ды пад лодку начаваць запоўз, а як прачнуўся — мне і прымроілася, што я ў дамавіне. Во, ссівеў толькі, — правёў Антось рукой па валасах. — З таго часу і не п'ю, як у той „дамавіне" пабываў. І навошта мяне ў бальніцу чатыры разы вазілі, лепш адразу б — „дамавіну".

**Віктар Саланец**




Мал. М. Кухто




Сэрцайка! Муж кінуў мяне з 10-гадовым дзіцём без жалю: знайшоў маладзенькую дзяўчыну, удвая малодшую за яго. Засталася я без ніякіх сродкаў, бо не працавала. Дзіця часта хварэла, і трэба было дбаць пра спецыяльную дыэту. Як я магла адразу згадзіцца на развод? Ну, дык зрабіў з мяне вар'ятку. Вядома, можна было звар'яцець з усяго гэтага. Мне на дадатак ужо таксама надыходзіла саракоўка, і пачынаць жыццё аднова не было сэнсу.

Але што там многа гаварыць: я яго проста, па-бабску, кахала. У хаце ўсё блішчэла. Муж мог у кожны момант запрасіць дахаты госця (а ў яго сябровў было шмат) — і было чым пачаставаць. Я ўзяла на сябе ўсе клопаты, звязаныя з домам і выхаваннем дзіцяці. Да сёння не магу зразумець, як ён мог кінуць свайго сына, якога любіў усё ж, здавалася, бязмежна.

Адным словам, разводу я не давала многія гады, дык найлягчэй было ўсадзіць мяне ў дом вар'ятаў. Як жа я магла абараніцца, калі сапраўды амаль не пакончыла жыццё самагубствам...

Ну, але выйшла з бальніцы. Знайшла нейкую, хаця абы-якую працу. Гадавала сына. Сэрцайка, сёння ўжо ён жанаты і ў мяне ёсць двое каханых унучкаў, для якіх я хачу жыць. Як мне было цяжка, толькі я ведаю.

А мой былы муж быў шчаслівы. Ажаніўся маладой жонкай. Выехалі ў ваяводскі горад і там будавалі сваё шчасце. У нашую мясціну наведваліся рэдка, найчасцей прыязджалі летам у водпуск. Тут жа жылі яго старыя бацькі і брат. Прыязджалі ўжо ўтраіх, бо ў іх нарадзілася дзяўчынка. Прымалі іх тут як найбліжэйшых, хаця зусім забыліся пра тое, што ёсць у яго яшчэ старэйшы сын. Зрэшты, мы туды і не хадзілі, ласкі не прасілі. Чаго ж хадзіць да чужых людзей?! І яны нават не ўспомнілі пра нас. А мае бацькі жылі далёка.

Ад людзей я даведвалася то пра тое, што ў майго немаладога ўжо мужа нарадзілася малое, то пра новую прыгожую кватэру, якую купіў для новай сям'і, то пра прыгожы дом, які пабудавалі за горадам. Кінуў той паненцы пад ногі ўсё. На жаль, з аліментамі на сына бывала па-рознаму.

Але надышоў час расплаты. Паненка — як паненка — знайшла сабе кавалера. Не важна, што была ўжо яго жонкай. Усё запісаў на яе, дык нават падзецца не меў дзе, калі яна выгнала яго. Мо і добра сталася, што ўсадзіла яго ў дом вар'ятаў, як ён мяне калісьці. Прынамсі там цёпла і есці дадуць.

Але, уяві сабе, Сэрцайка, цяпер ён успомніў, што ў яго ёсць сын. Звоніць і звоніць яму на працу з бальніцы. Хоча, каб сын забраў яго адтуль. А што, мо ён дзіцяці кватэру купіў, каб было куды ўзяць?! А мо грошай на вяселле крыху падкінуў, ці ўнукам на хрысціны?! Усё мы здабылі самі, ну, і, вядома, пакуль жылі, дапамагалі, чым маглі, мае бацькі. А цяпер дык ён успомніў...

Але ў сына з жалю лопаецца сэрца. Шкада яму чалавека. Усё ж гэта яго бацька. Хоча прыняць яго. А я — як камень. Няхай не важыцца нават нос паказаць у мяне. А ты як думаеш, Сэрцайка?!

Надзя

Даражэнькая Надзя! Ты сваё ўжо адпакутавала і мела час, каб прыйсці ў сябе. А ён цяпер у такім стане, як ты была калісьці. Чалавек, калі адыходзіць, рэдка калі разумее пакінутага. Думае, што мае прывілею на шчасце. А шчасце, яно — рэч хісткая. Сёння ёсць, а заўтра — няма. І рэцэпта тут на яго не выпішаш.

Муж твой павінен быў ведаць, што робіць. Павінен быў прадбачыць, што і яна калісь можа знайсці маладога — па сабе. На жаль, быў заслеплены, відаць, каханнем і... занадта самаўпэўнены.

А цяпер — ну, што ён будзе рабіць у сына? Напамінаць яму, якой быў свіннёю?!

Думаю, што калі маеш нейкі лішні куток — дай лепш сама яму месца. Толькі не лічы, барані Божа, на сапраўднае вяртанне, бо можаш захварэць ізноў.

Сэрцайка